PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (1930) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 9 МАЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ПАДГЛЯДВАННЕ БЕЛАВЕЖЫ

Не толькі адны мастакі арганізоўваюць у Белавежы пленэры. У сямідзесятых гадах падобнае мерапрыемства наладзілі тут паэты з Апольшчыны, а ў кастрычніку 1991 г. свой фатаграфічны пленэр мелі школьнікі з Майстэрні фатаграфіі Палаца моладзі ў Варшаве.

Гэтыя апошнія хадзілі з фотаапаратамі па мястэчку і пушчы тры дні. Плён іх знаходжання можам зараз паглядзець на выстаўцы ў холе Прыродазнаўчага музея ў Белавежы. Паказваецца на ёй 41 праца, пераважна ў чорна-белай тэхніцы.

Чаму якраз маладыя варшавякі захацелі фатаграфаваць Белавежскую пушчу? Камісар пленэру і адначасова шэф майстэрні, Малгажата Мікалайчык (па прафесіі яна фізік, а працуе зараз рэдактарам у часопісах „Фота" і „Фотакур'ер") кажа: — Нам выдавалася зразумелым, што сапраўды добрыя здымкі з лесам могуць быць выкананы толькі ў сапраўдным лесе. Ніякі прыгарадны парк яго не заступіць. Стары лес, тым больш пушча, мае ўласную душу, якую можна „падгледзець" толькі ў абсалютным спакою, з поўнай канцэнтрацыяй.

Ці ўдалося адшукаць „духа пушчы" ўдзельнікам пленэру? На гэтае пытанне цяжка адказаць адназначна. Калі і не цалкам ім выйшла, то ўсё такі іх здымкі нечым зачароўваюць.

Наведвальнікі выстаўкі амаль аднагалосна сцвярджаюць, што найлепш сябе адрэкамендаваў Артур Матусік. Асабліва вылучаецца ягоны здымак выкананы ў... скансэне. Позірк з-пад страхі на вятрак, адвячоркам, з навальнічнымі хмарамі на фоне неба. Іншыя здымкі гэтага аўтара, якія паказваюць між іншым, гушчарню запаведніка прыроды, таксама на ўзроўні прафесіянальнасці. Нічога тады дзіўнага, што хлапец гэты атрымаў сёлета ў Фінляндыі, за здымкі з пленэру, другую ўзнагароду, а яго сябра — Міхал Каханоўскі — трэцюю.

Пераможцам у Фінляндыі (апрача таго яшчэ і ў Славакіі) стаў таксама, старэйшы за сваіх сяброў на некалькі год, Пётр Вайнароўскі. Яго здымкі класіфікуюцца як штосьці на сумежжы фатаграфіі і жывапісу, дабаўма — абстрактнага жывапісу. Могуць падабацца, або і не, але ніхто не скажа, што ў іх нічога не бачыць.

Эксперыменты з фотаапаратам выразна падабаюцца таксама Паўлу Собчыку і Славаміру Адамкевічу. Адпаведна маніпулюючы ім, „вычаравалі" яны свайго „духа пушчы", такога небулярна-імгліста-праменістага.

Некаторыя здымкі Агнешкі Жэлязко (шарэнгі дрэў) напамінаюць палотны... нашага Лёніка Тарасэвіча. Казачнасцю зачароўваюць у сваю чаргу кроны старых дубоў у месячным ззянні (а ў сапраўднасці — у электрычным асвятленні).

Камісарша М. Мікалайчык ахвотна ўвекавечвала прыроду, але найцікавей выйшлі ёй... прасветліны ветрака. Войцех Старонь жа рвануўся на фатаграфічнага „аленя ў час гону" — апошняга асенняга лістка, і... зрабіў з гэтай тэмы

☞ Працяг на стар. 3



*— З якога тут боку падысці?*

## ПАНАРАМА ЧЫЖОЎСКАЙ ГМІНЫ

**Геаграфічнае палажэнне**

Чыжоўская гміна знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства і займае плошчу ў 13420 гектараў. Мяжуе яна з Гайнаўскай, Нараўскай, Бельскай, Арлянскай і Дубіцкай гмінамі. З вёскі Чыжы, якая з'яўляецца сядзібай гмінных улад, у бліжэйшыя гарады: Гайнаўку — 14 кіламетраў і ў Бельск-Падляшскі — 19 кіламетраў. Цераз тэрыторыю гміны праходзіць чыгуначная лінія (паўстанак каля вёскі Мора) з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі. Гміна складаецца з дваццаці вёсак, а васемнаццаць з іх — салэцкія. Найбольшыя вёскі гэта: Кленікі, Чыжы, Курашава, Мора, Збуч, Койлы і Камень. Варта адзначыць, што вёскі Камень, Курашава і Збуч заснаваны ў палове XVI стагоддзя ў выніку валочнай памеры, якую праводзіла каралева Бона. Вёска Мора заснавана ў тым самым часе Астафеем Малецкім.

На тэрыторыі гміны працякае рака Локніца, якая адносіцца непасрэдна да басейна ракі Нараў (мясцовыя жыхары называюць яе „Нарва"). Яна насычаецца грунтовымі водамі і атмасфернымі ападкамі, у сувязі з чым сцёк яе няўстойлівы. Найбольшы сцёк адзначаецца ў час веснавога снегарастання, найменшы — зімою і восенню.

Варта дадаць, што найбольшая вышыня знаходзіцца недалёка Кленікаў — 171 м над узроўнем мора.

**Зямля гаворыць аб мінулым — курганы**

У натуральным пейзажы Чыжоўскай гміны можна заўважыць элементы, якія ў сапраўднасці не з'яўляюцца творамі прыроды, а слядамі дзейнасці чалавека ў мінулым. З першага погляду іх цяжка нават заўважыць. Невялікія ўзгоркі, паўкруглыя земляныя валы, купалападобныя бугры, парослыя травой — гэта мала відочныя ў сваёй сённяшняй форме месцы, дзе ў далёкім мінулым людзі жылі, працавалі, узносілі ахоўныя канструкцыі, хавалі свіх памерлых. Захаванне іх да нашага часу на зямной паверхні магчыма было дзякуючы адпаведным канструкцыйным формам і выкарыстанаму матэрыялу — дрэву, каменням і зямлі. Аднак шмат такіх аб'ектаў нічым не выдзяляецца ў знешнім выглядзе зямной паверхні. Яны скрываюць свае таямніцы пад пластамі зямлі.

Гэтыя сляды жыцця і дзейнасці чалавека з даўніх часоў з'яўляюцца гістарычнымі крыніцамі і прадстаўляюць сабой незвычайна важныя помнікавыя аб'екты. Тыя, якія захаваліся на тэрыторыі Чыжоўскай гміны, адносяцца да перыяду ранняга сярэдневякоўя, да XI-XIII стагоддзяў. Прыгадаем некаторыя з іх:

**Камень.** Курган, які называюць „Косцева Горка", знаходзіцца на адлегласці каля 100 метраў ад дарогі з Тыневіч, недалёка ад будынкаў. Гэта купалападобны ўзгорак дыяметрам у 10 метраў. Курган унесены ў спісак помнікаў. Адносіцца ён да XI-XII ст. ст.

**Курашава.** На землях гэтай вёскі знаходзіліся археалагічныя аб'екты з бронзавай эпохі, рымскага перыяду і ранняга сярэдневякоўя. Зараз, пасля таго, як былі выбраны камяні, па іх не засталося відавочных слядоў, як напрыклад, на могілках, якія знаходзяцца побач з вёскай, ля скрыжавання дарог, дзе некалі стаяў вятрак.

Захаваліся могілкі па левым баку дарогі ў вёску Ляды. Магілы абкладзены па рагах вялікімі каменнямі, а сама магіла пакрыта брукам. У 1961 годзе частку могілак даследавала група археолагаў з Беластоцкага музея. Яны адкрылі, між іншым, спаленыя астанкі, прыбраныя ўпрыгожаннямі і керамікай з XI і XII стагоддзяў. Магілы са спаленымі астанкамі з таго часу з'яўляюцца рэд-

☞ Працяг на стар. 3

## ПЕРШЫЯ ЎГОДКІ

Завёўся ў рэдакцыі „Нівы" звычай адзначаць усялякія гадавіны. Свае юбілеі адзначалі ўжо Віктар Швед, Мікалай Гайдук, Ян Чыквін і Георгій Валкавыцкі. У папярэднім нумары выйшаў чатырохсоты выпуск літаратурнай старонкі „Белавежа". Усім гэтым святкаванням, вядома ж, характэрная ўзвышаная святочнасць, прыўзнятасць і некаторая надутасць. Была аднак апошнім часам больш сціплая гадавіна — ціха яна адзначалася ў трэці дзень Вялікадня. Была гэта гадавіна ў даслоўным значэнні, адзін годзік, так сказаць, першыя ўгодкі тае падзеі, якая ў свой час звалася расколам паміж „Нівай" і Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

Прэтэнзіі і эмоцыі аціхаюць, а час паспяхова залечвае раны. Тое, што год таму мела драматычную афарбоўку сёння явіцца сама больш як кабарэ. Пачалося ўсё 13 красавіка дзевяноста другога — пачалося ад Няшчасных Камп'ютэраў. Гэта знак часу, калі бяздушная тэхніка заняволвае чалавека і нараджае канфлікты. Падзеі шпарка развіваліся. Адбываліся пасяджэнні — галоўныя рэдактары вызваляліся і назначаліся. Узнікалі Заявы і Пратэсты. Паміж Беластокам і Варшавай захацелі пасыльныя — справа трапіла ў Цэнтр. 29 красавіка было апагеем канфлікту — з Цэнтра прыехалі ў Беласток Арбітры. Несумненнай заслугай Арбітраў было тое, што ўсё-ткі ўдалося ім дыскусію пасварваных бакоў утрымаць у межах культурнасці (дыскусія ж адбывалася ў грамадска-культурным таварыстве).Сярод Публікі (дзверы для яе былі зачынены) знаходзіліся прыхільнікі Абедзвюх Арыентацыяў, і хаця перакідваліся яны не заўсёды прыстойнымі словамі, аднак да рукапашнага бою аднак не дайшло. Так ці сяк канчатковае вырашэнне Калатнечы засталося ў кампетэнцыі Юрыдычнай Сістэмы. Тая ж Сістэма ў нялёгкіх умовах (людзі на развод чакаюць па паўтары года) круглы годзік разглядала Усе Акалічнасці — раз патрабаваліся нейкія паперыны, іншым разам перад абліччам Канчатковай Справядлівасці мусіў ставаць Мярцвяк РСВ. Як яно ні было, але ўсе гэтыя захады давялі да Шчаслівага Завяршэння — уканстытувалася Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", якая і набыла правы на выдаванне газеты. Яна цяпер пакіруе „Нівай", а мабыць і „Часопісам".

Адзначаючы ўгодкі гэтай падзеі, якая пачала ўсё расстаўляць на свае месцы (студэнцкае згуртаванне займаецца студэнцкай дзейнасцю, грамадска-культурнае — культурнай, а праграмная рада — праграмай), працаўнікі „Нівы" згадалі шмат якія сумныя і смешныя яе акалічнасці. Як гэта так яно сталася, што Таварыства адлучылася ад „Нівы"? Трэба аднак мець надзею, што і Беларускае таварыства ўключыцца ў працу Праграмнай рады — яна адкрытая для ўсіх беларускіх арганізацый. Шкада толькі Няшчасных Камп'ютэраў — яны неяк не знаходзяць сабе рэчышча для дзейнасці ў карысць Беларускаму Асяроддзю.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

**SPOSÓB NA MOLE**

*Wiadomo, mole to żadna przyjemność, a szkody wyrządzić mogą sporo. Jest na nie sposób. Kupuje się cytrynę. Wtyka się w nią kilkadziesiąt zapałek, główkami na zewnątrz i ustawia w otwartym miejscu i mole znikną jak kanfora.*

*(Pryzmat, 30.III.1993)*

*Pryzmat* — гэта газетка Аляксандра Прушынскага, паляка з Канады, які пастанавіў змагацца за пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У выданні мы знойдзем болей такіх парадаў насельніцтву Беларусі і іншых падобных ідыятызмаў. Мы шчыра спачуваем спонсарам палітычнай кампаніі пана Прушынскага.

* * *

*БНФ, и это уже сейчас ясно многим трезвомыслящим людям, оказался недемократическим движением. Абсолютно.(...)*

*Знаю и тех, кого БНФ считает своими непримиримыми врагами — лидеров сегодняшних коммунистов. Сравниваю и убеждаюсь: последние гораздо честнее, порядочнее, прямолинейнее.(...)*

*Приемлемый выход мы увидели в Народном движении Беларуси. Здесь мы пришлись ко двору. Я являюсь одним из сопредседателей, возглавляю комиссию, курирующую идеологические и национальные вопросы.(...)*

*Как бы сегодня ни нарекали Народное движение — совминовским, коммунистическим, красно-коричневым, — но именно здесь сконцентрована сила, отвечающая интересам большинства населения республики.(...)*

*(Свободные новости, н-р 8, інтэрв'ю з Міколам Шыляговічам, лідэрам руху заходніх палешукоў)*

Мікола Шыляговіч, заснавальнік і галоўны ідэолаг палескай (яцвяжскай) нацы ў Беларусі, перамераў ужо ўвесь спектр палітычнага жыцця ў нядоўгай, але бурлівай, гісторыі руху. Урэшце, здаецца, знайшоў сваю пазіцыю.

Адкуль і куды пайшлі палешукі? Адкуль пайшлі, туды і прыйшлі.

* * *

*У вёсцы Пушкары Гарадзенскага раёна 43-гадовая жанчына з мэтай самагубства кінулася ў калодзеж і ўтапілася.*

*(Пагоня, н-р 8)*

У горадзе Беласток мы з мэтай самаадукацыі кінуліся ў чытанне „Пагоні" і... нічога, выжылі.

* * *

*Eugeniusz Czykwin:*
*Sztuka Tadeusza Słobodzianka („Prorok Ilja" — red.) w warstwie językowej jest wulgarną i prymitywną. Pisana z zamiarem zestawienia pojęć sakralnych, krzyża, modlitw prawosławnych z wulgaryzmami. To działanie ma ukazać niski poziom Białorusinów, nie ma wątpliwości, że są to Białorusini, bo przeklinają po białorusku. Żaden człowiek, którego celem nie jest zamierzone poniżenie uczuć religijnych, nie zestawi słowa „krzyż" ze zdaniem „o kurwa, jaki on ciężki."*

*Tadeusz Słobodzianek:*
*Uważam list posła Czykwina (do ministra kultury — red.) za donos do władz przeciwko wolnej myśli, sztuce, w której złożyłem hołd Białorusinom wyznania prawosławnego. Myślę, że „Turlajgroszek", „Car Mikołaj" i inne moje sztuki więcej zrobiły w Polsce i za granicą dla prawosławnych Białorusinów, niż działalność posła Czykwina w kolejnych kadencjach Sejmu.*

*(Kurier Poranny, 23-24-25.04.1993)*

Гэта называецца — spór o wartości. Ліха яго бяры! — і беларусаў ён не абмінуў.

* * *

*Ostatecznie koncepcja nie jest dla nas jasna. Najprawdopodobniej rząd zamierza umiejscowić pełnomocnika (do spraw mniejszości narodowych — red.) przy Ministerstwie Spraw Wewnętrznych, co budzi pewien zrozumiały zresztą niepokój mniejszości narodowych, jako że kojarzy się z tym co było w PRL.*

*(Kurier Poranny, 27.04.1993, z wywiadu z Jerzym Kopanią, przewodniczącym Sejmowej Komisji Mniejszości Narodowych i Etnicznych)*

Цяперака можна закладацца на грошы: ці Міністэрства ўнутраных спраў „возьме апеку" над нацыянальнымі меншасцямі яшчэ пры Валэнсе, ці ўжо пры Цімашэвічу? Мы ставім на Валэнсу.

* * *

*Przedstawiciel Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego twierdząc, że rząd daje za mało pieniędzy na finansowanie mniejszości (w szczególności białoruskiej) a za dużo na Polonię, zażądał wyjaśnienia, dlaczego panowie posłowie zgadzają się z taką nierównością.*

*Nieco poirytowany Kopania zaproponował mniejszościom, aby ich kraj je finansował.*

*(Styk, nr 4)*

---

**24 красавіка 1993 г.**
**пасля доўгай і цяжкой хваробы, на 66-м годзе жыцця памёр**

**ЮРЫ ЛАТЫШОНАК**

**Сям'і памёршага глыбокае спачуванне з прычыны напаткаўшага Іх гора выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы" і Праграмная рада**

---

**Старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання**

**АЛЕГУ ЛАТЫШОНКУ**

**глыбокае спачуванне з выпадку напаткаўшага Яго гора — смерці БАЦЬКІ — выказвае**

**Галоўная рада БДА**

---

**СЯМ'І ЛАТЫШОНКАЎ**

**словы глыбокага спачування з прычыны смерці**

**БАЦЬКІ І МУЖА**

**выказваюць**

**кіраўнікі і працаўнікі фірмы „АМЭГА"**

---



## ПРАЦЯГ СЛОВА НАД МАГІЛАЮ ЮРЫ ЛАТЫШОНКА

...развіталі мы ў Вечны Шлях аднаго з герольдаў нашага тут адраджэння, рыцара Беларускага Духу!

Чалавек варты столькі, колькі добрай памяці ў людзях пакідае ён пасля свайго жыцця.

Не паміраем дарэшты. Каб бясследна. Уваскрасаем у дзецях сваіх, але і ва ўчынках, тых здзяйсненнях, якія застаюцца назаўсёды.

Людская памяць справядлівая: кепскае забываецца, благі хто перадаецца ў бездань нябыту, неіснавання.

Юры Латышонак быў чалавекам не толькі чалавеку, жыў для сям'і і блізкіх, але і для Усявышняга Лёсу нацы. Гэта рэдкі дар Божы. Гэта, адначасна, цяжкая ноша, якая пад сілу вялікаму сэрцу і моцнаму характару. Не кожнаму, далёка не кожнаму.

Асабліва ўдзячную памяць пакінуў Ён у душах маладых беларусаў, у пакаленні нашай будучыні. Успамагаў, чым мог, іх патрыятычныя акцыі. Усяляк падтрымліваў веру ў справу. У ідэю Беларусі.

І не расчараваўся. Яго адданасць дала плён. Зарунела беларуская ніва, так бязлітасна здратаваная Гісторыяй. Прычакаў гэтага шчасця, таксама, як радаснае ажыццяўленне Тастаменту пакутнікаў і герояў Беларускай Зямлі.

Вечнай будзе памяць пра Цябе, незабыўны Юры!

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

---

## З мінулага тыдня

**Двухбаковае пагадненне** з Міністэрствам унутраных спраў Беларусі, якое дапаможа каардынаваць дзеянні супроць арганізаванай злачыннасці ў абедзвюх краінах, будзе падпісана па працягу месяца — заявіў міністр унутраных спраў **Анджэй Мільчаноўскі** падчас пабыўкі у Беластоку. Сказаў ён таксама, што ў Польшчы няма праблемаў з постсавецкай мафіяй, а толькі з моцнай структурай арганізаванай злачыннасці родам з СНД, бо мафія, на думку міністра, гэта арганізацыя, якая мае ўплыў на палітычныя вырашэнні.

**Калідор хуткага руху** (ад 250 км/г) плануюць адкрыць пасля 2000 года польскія чыгуначнікі. Скорасны пуць будзе пачынацца ў Згажэльцы і цераз Вроцлаў, Варшаву, Беласток і Гродна павядзе ў Пецярбург. Ажыццяўленне гэтага плана патрабуе вялікіх крэдытаў, між іншым з Сусветнага банка, і супрацоўніцтва з рэспублікамі СНД.

**Беларускі каляндар на 1993 г.** (выданне ГП БГКТ) з'явіўся ў продажы ў канцы красавіка. Рэдактарамі трыццаць сёмага выпуску календара з'яўляюцца **Тамара Русачык і Янка Целушэцкі**. Каляндар быў надрукаваны аднатысячным тыражом у Гродне.

**Тадэуш Слабадзянак** атрымаў за п'есу „Прарок Ільля" ўзнагароду імя Станіслава Пентака, якую прысвоіў яму **Фонд вясковай культуры**. Узнагароджаны твор, які расказвае аб секце Ільі Клімовіча з Грыбоўшчыны, у мінулым годзе выйграў конкурс арганізаваны Міністэрствам культуры і мастацтва і рэдакцыяй месячніка „Dialog".

---

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Quo vadis БГКТ? — пытае Ян Мордань.
- Штраф за святкаванне праваслаўнага "сілвестра".
- Які беларускі крыж? — разважае палкоўнік Ул. Шнэк з Мельбурна.
- Карэспандэнцыі з гмінаў Г. Мароза, М. Лук'янюка, М. Панфілюка, П. Байко, М. Пучко, Я. Целушэцкага і Дзядзькі Захара.

## ЛІСТ-ПРАТЭСТ

*„Цынкавыя хлопчыкі" (назва ад цынкавых трунаў) — гэта кніжка Святланы Алексіевіч аб удзеле беларусаў у вайне ў Афганістане. За гэтую кніжку постсавецкая наменклатура Беларусі хоча судзіць аўтарку. Гэты недапушчальны факт выклікае маральнае абурэнне з боку творчых асяроддзяў таму, што маем дачыненне з няцярплівасцю да праўды. Аб гэтым гаварылі нашыя пісьменнікі на сходзе „Белавежы". Побач друкуем ухвалены імі ліст-пратэст:*

Старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь

Мы, беларускія пісьменнікі Польшчы, рашуча пратэстуем супроць судовага расьсьледаваньня ў Беларусі пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч.

Судовы працэс над пісьменьніцай — гэта ганьба на ўсю цывілізаваную Эўропу!

Ян Чыквін
Сакрат Яновіч
Віктар Швед
Надзея Артымовіч

Беласток, 24 красавіка 1993 г.

 




Пераглядаў я нядаўна свае паперы і знайшоў здымак са з'езда карэспандэнтаў "Нівы" ў 1977 г. Стаіць першы карэспандэнт за 1976 г. Мікалай Няплоха, а зараз недалёка Ваня Кірызюк. Пісаў ён тады больш за мяне, прыгожа гаварыў па-беларуску, расказваў пра сваю вёску Крывяцічы. Лічыў я яго тады, і не толькі я, найбольш надзейным карэспандэнтам "Нівы". Не ведаю чаму ён перахрысціўся і стаў украінцам, але гэта ўжо яго справа, няхай і стварае ўкраінскую літаратуру, абы толькі астаўся добрым чалавекам, так як быў ім раней.

Калісь у "Ніве" прачытаў я артыкул здаецца Яўгена Міранові́ча "Фэстываль нянавісці" і падумаў сабе, чаму той Кірызюк так не любіць беларусаў. Што сталася? Чаму з беларускага патрыёта гэты чалавек пераўтварыўся ў "карэннага ўкраінца".

Не магу толькі зразумець, чаму ён памяняўшы нацыянальнасць стаў аплёўваць беларусаў. Беларусамі былі яго бацькі і як відаць выхавалі Ваню на добрага беларуса. Які чорт намяшаў яму ў галаве гэтага, ужо немаладога, чалавека.

Не ведаю войта бельскай гміны Ігнацюка, які таксама - як памятаю - выступаў у той радыёперадачы "Украінская думка" і не хачу яго асуджаць, але цяжка паверыць, што так мог гаварыць чалавек з нейкай падбельскай вёскі. А можа нам гэта ўсё толькі здавалася, або нехта зрабіў нейкі мантаж, каб скампраметаваць прыстойных людзей? Сам ужо не ведаю, што пра гэта думаць. Здрада, правакацыя ці дурнота?

**М. ЛУК'ЯНЮК**

## ПАДГЛЯДВАННЕ БЕЛАВЕЖЫ

☛ *Працяг са стар. 1*

небанальны трыпціх.

Падсумоўваючы — плён белавежскага фатаграфічнага пленэру даволі цікавы, асабліва, калі ўзяць пад увагу ўзрост яго ўдзельнікаў. Я ўпэўнены, што з некаторымі прозвішчамі мы яшчэ няраз сустрэнемся.

Выстаўка, падрыхтаваная Анджэем Кэчынскім, будзе працягвацца да канца мая гэтага года.

**ПЁТР БАЙКО**

# З МАЙГО ПАНАДВОРКА

### НУ І ДЗЯРУЦЬ

Атрымаў я, як і ўсе пенсіянеры, павестку з гміны, каб заплаціць падатак за тое, што жыву, бо хіба інакш гэты падатак назваць нельга. Гміна памерала мой панадворак, хату і хлявы, устанавіла падатак і цяпер плаці, брат. Пытаю тады, навошта мы, пенсіянеры, плацім другі падатак, бо адзін падатак — 400.000 зл. у месяц забірае ў нас ЗУС, а гэта не жартачкі, амаль пяць мільёнаў злотых у год. Ці можна з чалавека лупіць дзве скуры? Чалавек жа не вуж, які калі і скіне адну скуру, дык мае другую. Але каго гэта цікавіць, што ў мяне хата развальваецца і не хапае грошай на яе рамонт. Хто тады дапаможа? Гміна?

### КАНДЫДАТ У ВЕТЭРАНЫ

Мой сусед быў на катаржных работах у Варкуце. Трапіў ён там не па сваёй волі, але стаў ахвярай сталінскага тэрору. У 1941 годзе прызвалі яго ў Чырвоную Армію. Падчас вайны трапіў у нямецкі палон, з якога вызвалілі яго ў 1945 годзе тыя ж чырвонаармейцы. Тут жа і яго адразу судзілі як ворага народа (бо здаўся ў палон) і прыгаварылі да 20 гадоў прымусовай працы ў Варкуце. Дадому вярнуўся ён у 1957 годзе, пасля 12 гадоў знясільваючай работы.

Цяпер захацеў ён стаць ветэранам, каб карыстацца льготамі, якія гэтай групе людзей належацца. У арганізацыі, якая аб'ядноўвае сібіракаў аднесліся да яго з падазронасцю, бо быў чырвонаармейцам, і хто ведае, ці не дабравольцам. Трэба яму даказаць, што ў Варкуту папаў ён не па сваёй волі, прад'явіць прыгавор ваеннага суда. Пісаў у тую ж Варкуту, атрымаў спраўкі, што працаваў на шахтах, але гэтага недастаткова. Бяда ў тым, што служыў ён у Чырвонай Арміі, але ці магчымым было тады адмовіцца? Адкуль яму ўзяць прыгавор ваеннага суда? Відаць, мой сусед у ветэранах хадзіць не будзе.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## СТАРЭЕ І БЯДНЕЕ ЗАБЛУДАЎСКАЯ ВЁСКА

Заблудаўская гміна пачынаецца ад Беластока і даходзіць да ракі Нарвы. Цераз цэнтр гміны, гарадок Заблудаў, праходзіць шаша ў Бельск, Гайнаўку і Міхалова. Гміна нічым асаблівым не адрозніваецца ад іншых гмін "усходняй сцяны" нашага ваяводства. Зямля ёсць розная, хаця найбольш пятага і шостага класаў. Прыватных лясоў мала. Заводаў і фабрык, якія атручваюць паветра і воды, апрача малачарні, няма; малачарня атручвае рэчку Рудню, прыток Нарвы. Летам на гэтай рачулцы можна пабачыць асад, які ахсядае на траве; рыбы, ад часу, калі паўстала малачарня, ніхто тут не бачыў. Паглядзеўшы на вёскі ў гміне, можна заўважыць, што ў многіх дамах вокны забіты дошкамі: ніхто ў гэтых хатах не жыве. Вёскі з года ў год пусцеюць: маладыя не хочуць аставацца і пераймаць бацькоўскіх гаспадарак, астаюцца толькі старэчы, якія чакаюць свайго часу. Адной з прычын адплыву моладзі ў горад з'яўляецца тое, што вясковы хлопец не можа знайсці сабе жонку, з якой мог бы абрабляць гаспадарку. Другой прычынай з'яўляецца сельскагаспадарчая палітыка, якая знеахвочвае моладзь. Калі малады чалавек пачынае гаспадараванне з нуля і бярэ крэдыт у банку, то працэнты забяруць яму ўсё, нават на заплату ратаў не хопіць. На пераломе сямідзесятых і васьмідзесятых гадоў многія гаспадары, напрыклад з вёсак: Жукі і Навасады, купілі зямлю з Дзяржаўнага фонду. У той час куплялі яны і трактары, і сельскагаспадарчыя машыны, і хімічныя ўгнаенні пад збожжа і зялёныя кармы. Гаспадары трымалі многа дойных кароў, ялоўніка і свіней. У цяперашні час у цэлай ваколіцы ніхто сельскагаспадарчых машын не купляе, угнаенні бярэ мала хто. Збожжа родзіць слаба, паменшала колькасць гадаванай жывёлы. Каб прадаць свінню, трэба мець шчасце, бо мясны камбінат не хоча браць і гаспадары вязуць жывёлу назад. Хутка дойдзе да такой сітуацыі, як перад вайной, калі купец прыязджаў і выдумоўваў розныя камедыі, каб танней купіць. Нашыя паны міністры мала думаюць, як падтрымаць сельскую гаспадарку. Выглядае, што яны хочуць знішчаць тое, што камуністы зрабілі, хаця яно і было добрае. Прывяду некалькі прыкладаў. Гадоўля кароў развівалася вельмі добра, калі іх апладнялі высокаякасным насеннем; цяпер ад абы-якіх бычкоў родзяцца абы-якія цяляты. Калісь апырскі бульбы ад стонкі (каларадскага жучка) былі абавязковымі, таму бульбы было многа а стонкі мала, цяпер стонкі многа а бульбы мала; дойдзе да таго, што і зусім яна прападзе. Тое самае і з апырскваннем збожжа ад пустазелля: калісь асоту мала было і відаць, цяпер асот і іншае пустазелле растуць без перашкод, таму і ўраджай меншы. Да таго ж многа поля ляжыць аблогам - хопіць прайсціся палявой дарогай, каб гэта пабачыць. Навошта гаспадару араць і сеяць: каб пасля дакладаць да таго, каб сваё збожжа сабраць з поля? Няхай нашы міністры возьмуцца за работу і памогуць гаспадарам падняцца на ногі. Калі гаспадар будзе мець карысць з гаспадаркі то і ў краіне будзе дастатак. Мяса і хлеба не трэба купляць за граніцай; за граніцай купляць трэба тое, чаго ў нас няма.

**МІКАЛАЙ ПУЧКО**

## ШКАДА І НЕ ШКАДА

Калі пачытаеш аб людзях, што жывуць у апусцелых вёсках – шкада іх. Вось надышла вясна. Весяліцца ўсё, ажывае, цешыцца жыццём. А гэтыя бедныя людзі блукаюць між запушчанымі хатамі, шукаючы, каб з некім пагаварыць. А людзей — як на рэцэпт. П'яніц толькі поўна. Час ад часу чуваць іх дзікі спеў. Відаць, шукаюць учарашняга дня. Шкада гэтых людзей. Цвярозых, вядома. На сябе працаваць мусяць і на п'яніц. Лёс ім выпаў такі. Падумаеш, з другога боку — шкада і не шкада. Іх жа шануюць, цэняць. Спытаеце: хто? А кандыдаты перад выбарамі. Пэўна галасы іх многа значаць, калі іх як зайцаў ловяць па апусцелых вёсках. Ну і святых сваіх маюць. Зусім інакш, як у нас. Наша вёска вялікая, гаспадароў у ёй многа, і то маладых. На вёсцы праца бурліць. Сяляне рыхтуюцца да палявых прац, купляюць угнаенні, сельскагаспадарчыя машыны. А колькі трактароў гэтай вясной з Літвы нацягнулі! Час не стаіць на месцы. Вёска, як перад вякамі, жыве. Цяжка, вядома. Цяжка. Бо і каму сёння лёгка? Спытацца любога, кожны наракаць будзе. Так павялося між людзьмі, а жыць трэба. Нават і выпіць няма калі, а гарэлка ж для людзей. Адна толькі бяда — якія выбары не былі, ніводзін кандыдат у нашу вёску не завітаў. Відаць, неадпаведныя выбаршчыкі? Ну і святых сваіх не маем. Праўда, прарокаў, прапаведнікаў нарабілася і ў нас. Толькі хто іх ведае, ці яны святыя? Можа, грашнейшыя за нас, грэшных?

**Г. МАРОЗ**




### ШЧАСЦЕ

— Што такое шчасце? —  
Запытаем мы.  
— Здароўя нам дайце! —  
Адкажуць адны.  
Другія адкажуць:  
— Багацця нам даць!  
І мы вам пакажам,  
Як вольна гуляць!  
А трэці сцвярджаюць:  
— А нам усё раўно!  
Бо плану не маюць  
Даволі даўно.  
А план жыцця розны,  
Як той карусель.  
Часта невыносны  
Для сілы людзей.  
Хвальбою гамоняць,  
Сваёю красой,  
А старасць дагоніць —  
Ідзе ўсё далоў.  
І ўся наша слава,  
І нашае цела —  
Усё гэта праява  
Таго, што сатлела.  
А знойдзем мы шчасце  
Толькі у Богу.  
Верай прызнайце:  
Пакажа дарогу.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ПАНАРАМА ЧЫЖОЎСКАЙ ГМІНЫ

☛ *Працяг са стар. 1*

касцю і прадстаўляюць сабой рэлікт паганскай абраднасці.

**Збуч.** На землях вёскі ёсць розныя сляды пасяленняў. Адзін з іх — гарадзішча з абаронным валам — размешчаны каля вёскі, недалёка шашы Бельск — Гайнаўка. Каля 1 км на поўнач, на ўскраіне лесу, знаходзяцца часткова захаваныя раннесярэдневяковыя магілы ў каменных абкладах. Некалькі з іх было даследаваных. Памерлых перад пахаваннем не спальвалі. Пры іх знайшлі шкляныя пацеркі і іншыя ўпрыгожанні з бронзы, а таксама жалезны нож. Недалёка адсюль ёсць курганныя магілы ў выглядзе высокіх кацоў. Абодва аб'екты — „Вал" і „Могілкі-Грабняк" — занесены ў спісак помнікаў і знаходзяцца пад аховай.

### Кліматычныя ўмовы

Чыжоўская гміна знаходзіцца ў паласе ўмеранага клімату. Вегетацыйны перыяд працягваецца каля 7 месяцаў, пачынаючы з другой палавіны красавіка. У пачатку і ў канцы вегетацыйнага перыяду магчымы замаразкі, якія аказваюць адмоўны ўплыў на рост многіх сельскагаспадарчых культур. Перыяд інтэнсіўнага росту сельскагаспадарчых культур — ад паловы красавіка да канца чэрвеня.

Пахмурных дзён у годзе бывае значна больш, чым пагодных. Найбольш хмарнымі з'яўляюцца месяцы ліпень і жнівень, найменш хмарнымі — люты і кастрычнік. Найбольш сонечных дзён адзначаецца ў чэрвені. Дамінуючымі вятрамі з'яўляюцца слабыя і сярэднія цыкланічныя вятры заходняга напрамку. Яны прыносяць найбольшую колькасць ападкаў, удзейнічаюць на павышэнне тэмпературы ў халодны і на яе паніжэнне ў цёплы перыяды года. Зімою магчымы антыцыкланічныя пераносы паветраных мас, дзякуючы якім устанаўліваецца сухое надвор'е з даволі нізкімі тэмпературамі. Аднак маразы звычайна не наносяць вялікай згубы азімым культурам і садам.

Наогул, клімат Чыжоўскай гміны як і ўсёй Гайнаўшчыны, спрыяе развіццю сельскай гаспадаркі.

### Прыродныя ўмовы

Зямныя нетры ў Чыжоўскай гміне вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковых вывадаў аб іх багацці. Дапускаецца думка, што тут залягае крэйда, але яна прыкрыта глаўканітнымі пяскамі, цёмназялёнымі глінамі і марэнай, агульная таўшчыня якой дасягае ад 70 да 100 метраў. Сустракаюцца розныя віды глінаў, між іншым, каля Чыжоў, Кленікаў і Каменя. Найчасцей вядомы толькі тыя залежы гліны, якія знаходзяцца на паверхні зямлі або тыя, якія былі выпадкова адкрыты насельніцтвам ці шукальнікамі, занятымі іншымі працамі.

Гравій бяруць тутэйшыя жыхары, ды не толькі яны, з так званых „жвіроўняў" каля Кленікаў і каля Лядаў. Недалёка ад Чыжоў, ва ўрочышчы „Сярэбраная Горка" знаходзяцца залежы дабраякаснай гліны. З яе была б добрая чырвоная цэгла, пустакі і іншыя керамічныя вырабы. Залежы гліны – як дагэтуль — не выкарыстоўваюцца.

Сустракаюцца тут усе тыпы глебаў, якія фарміраваліся ва ўмераным клімаце нашай геаграфічнай паласы. З увагі на ўмовы (падсцілаючыя іх пароды, механічны склад і т. п.) глебы на тэрыторыі гміны разнастайныя. Найчасцей падсцілаючымі пародамі з'яўляюцца марэнныя гліны, суглінкі, сартаваныя пяскі або ілы. Такія глебы камкаватыя, яны добра захоўваюць вільгаць і лічацца ўраджайнымі, пшанічнымі глебамі ў гміне. Паказчык баніціроўкі ажно 0,98. Выступаюць яны каля Чыжоў і Кленікаў. Значная частка гміны занята пераважна ворывам, а затым выганамі і сенажацямі. На гэтых апошніх паказчык баніціроўкі глебы 0,89, гэта значыць таксама даволі высокі.

*Працяг праз тыдзень*

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**



 

# ПАСХА Ў ПАСОЛЬСТВЕ РБ

У чэрвені споўніцца год часу з заснавання пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Хаця гэта вельмі кароткі час, але праўдападобна больш беларусаў — грамадзян Польшчы, прыйшло туды афармляць розныя свае справы, чым за сорак гадоў у былое савецкае пасольства. І гэта не толькі таму, што сёння пачаўся вялікі рух на мяжы, але і таму, што беларусаў вітаюць там асабліва сардэчна. Расказваў мне адзін пажылы чалавек, які ў 1973 г. пайшоў у савецкае пасольства ў Варшаве афармляць нейкі дакумент для сваякоў з Менска, і што калі ён прадставіўся як беларус з Беласточчыны, нейкі чыноўнік пагардліва адазваўся: „Какой вы белорус. В Польше живёте и вы, извольте, поляк”.

24 красавіка г.г. пасол Рэспублікі Беларусь спадар Уладзімір Сянько запрасіў прадстаўнікоў беларускага асяроддзя ў Польшчы на пасхальную сустрэчу. Гасцей прывітаў згодна са старой беларускай традыцыяй словамі: „Хрыстос Уваскрос”.

Зразумела, што гэта сустрэча дала перш за ўсё магчымасць працаўнікам пасольства пазнаёміць гасцей з сітуацыяй у Беларусі, а прадстаўнікам беларускага асяроддзя ў Польшчы выказаць свае заўвагі наконт апошніх палітычных падзеяў у Рэспубліцы, а таксама абмеркаваць магчымасць пашырэння гандлёвага супрацоўніцтва паміж фірмамі Беласточчыны і Беларусі.

Спадар пасол, прадбачыўшы, што тэмай, якая можа выклікаць найбольшае зацікаўленне беларусаў у Польшчы можа быць рашэнне парламента Беларусі аб ваенна-палітычны саюзе з Расіяй і азіяцкімі рэспублікамі, паясняў сваім гасцям, што справа яшчэ не вырашана да канца. „Найважнейшае, — гаварыў пасол, — што пра будучыню Беларусі праўдападобна вырашаць будзе народ падчас рэферэндуму. Дагавор з Расіяй не мусіць абазначаць падпарадкавання гэтай дзяржаве, а усё залежыць ад таго, як ён будзе сфармуляваны”, — закончыў спадар У. Сянько.

Паводле выказванняў супрацоўнікаў пасольства, вельмі драматычнай становіцца гаспадарчая сітуацыя Беларусі. У апошніх гадах змяншаецца прадукцыя амаль ва ўсіх галінах гаспадаркі. Асабліва не хапае сыравіны, якую трэба купляць за г. зв. „цвёрдую валюту” ў Расіі, на Украіне і іншых рэспубліках былога Саюза. Найгорш выглядае сітуацыя з нафтай. Не мае яе ў дастатковай колькасці і самая Расія, а з другіх крыніц пакуль што няма адпаведных тэхнічных магчымасцяў яе давезці. Трэба тут аднак адзначыць, што эканамічная сітуацыя Беларусі ў параўнанні з Расіяй, Украінай ці Літвой ёсць найлепшая. Хапае, перш за ўсё, спажывецкіх прадуктаў. Аналізуючы таксама паказчыкі, прадстаўленыя беларускімі дыпламатамі, можам сказаць, што гэтае зніжэнне прадукцыі пакуль што не такое ашаламляючае. Вядома, што толькі абмежаванне ваеннай прамысловасці, якая на Беларусі была вельмі развітая, абмяжоўвае таксама прадукцыю шматлікіх кааперацыйных прадпрыемстваў. Перад такой самай праблемай стаіць гаспадарка цэлай усходняй Еўропы. Не адзін страйк у Польшчы меў месца таму, што Гусейну ці Кадафі нельга прадаваць танкі. Тавар стаіць, людзі не маюць чаго рабіць, а ў прадпрыемстве не хапае грошай, каб змяніць характар прадукцыі.

Беларусаў з Беласточчыны найбольш хвалюе гандлёвая палітыка ўрада Беларусі. У той час, калі сяляне Беласточчыны мелі цяжкасці з продажам бульбы, зерня, Беларусь купляла гэтыя прадукты недзе ў Шчэціне, Познані, Гданьску нярэдка за большую цану, чым каштавалі б гэтыя тавары ў беластоцкіх прадпрымальнікаў.

Супрацоўнікі пасольства паяснілі, што няма на Беласточчыне адпаведна сарганізаваных фірмаў, якія маглі б гарантаваць тавараабмен у размерах патрэбных Беларусі. Спасылаючыся на інфармацыі, якія я атрымаў ад дырэктара фірмы „Амега” Міраслава Целушэцкага, прадставіў я меркаванне, што адной з перашкод, якія абмяжоўваюць гандаль з'яўляецца дрэнная банкавая сістэма ў Беларусі. „Бізнес патрабуе хуткага абмену грошай. А чакаць два месяцы на валюту за дастаўлены тавар — гэта катастрофа для бізнесмена”.

Атрымаўся нейкі парадокс, бо госці пасольства, па адукацыі ў большасці гуманісты, быццам нечым адурманеныя гаварылі пра банкі, фірмы, гандаль, прадукцыю. Вось час настаў!

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# BIAŁORUSI, BIAŁORUSI...

Tytuł ściągnąłem z książeczki Sokrata Janowicza, trochę go trawestując. Sokrat napisał ją przed laty ze źle skrywaną pretensją do Polaków o brak zainteresowania Białorusią. No i niewiele się zmieniło: informację, która powinna była trafić na czołówki gazet, i to jako podstawa do przyszłych rocznic, odnotowano półgębkiem na odległych miejscach. Posłuchajcie: niedługo ruszą na oceany statki morskie pod białoruską banderą - z portu macierzystego w Gdyni. Powstała specjalna polsko-białoruska spółka żeglugowa, do której strona polska wniosła statki, a Białorusini kapitał obrotowy.

Wszystko to jest zasługą (odnotowuję z satysfakcją) kapitana żeglugi wielkiej, dziś wiceministra żeglugi i gospodarki morskiej Zbigniewa Sulatyckiego i jego współpracowników. Mam do niego szczególny sentyment - w czasach stanu wojennego to on, jeden z nielicznych, zgromadził fachowców swojej branży, by razem pracowali nad programem dla gospodarki morskiej jutra; ten świetnie zarabiający pilot, z własną firmą, nie wahał się ryzykować kariery, by pracować z myślą o wolności. Wiedział (a ja za nim), że przemysłu stoczniowego nie trzeba zamykać ani parcelować, lecz dać mu szansę; teraz możemy triumfować - nikt nie musi płakać nad polskimi stoczniami, płaczą ich konkurenci.

To Sulatycki teraz robi naszą politykę białoruską. Obok niego - wojewoda warszawski Bohdan Jastrzębski wraz z innymi szefami województw leżących wzdłuż przyszłego szlaku śródlądowego tranzytu wodnego wschód-zachód. Z ich środków sfinansowano tzw. feasibility study, studium wykonalności takiego przedsięwzięcia, koniecznego o tyle, że na zachód i na wschód od nas pływają barki 1000-tonowe, podczas gdy przez Polskę nie przepcha się i 300-tonowej... Białoruś jest tym bardzo zainteresowana, bo zyskałaby ważną rolę pośrednika w tranzycie między Europą a Rosją.

Czy mamy poza tym jakąś politykę białoruską? Ba, robią ją nasi Białorusini. Jednym z nich jest zdobywca tytułu Agrobiznesmena 1990 roku Sergiusz Martyniuk; importuje białoruskie traktory MTZ i prowadzi dla nich serwis, organizuje handel naszymi płodami rolnymi. Tak się rodzi codzienność polskiej polityki wobec Białorusi. A co z zasadami? Otóż dla Rosjan nasze kontakty z Białorusią będą zawsze podejrzane. Dlatego w tych kwestiach - w imię dobrych stosunków z Rosją - trzeba stawiać problemy otwarcie. I samym sobie wszystko porządnie wyjaśnić.

Nie jest w interesie Białorusi tracić kontakty i związki z Rosją, bo to są jej naturalne rynki. Co więcej, nawet emisja własnego pieniądza może być tylko przejściową koniecznością, ponieważ członkowie Wspólnoty Niepodległych Państw po otrzeźwieniu i uporządkowaniu pieniądza powinni podpisać unię celną między sobą. Alternatywą byłoby wejście w unię celną z nami, ale niby jak Białoruś miałaby zbudować granice celne z Rosją? I po co? Jeśli tam może być partnerem konkurencyjnym, a u nas nie? Mało: dla nas Białoruś jest tym bardziej atrakcyjną handlowo, im łatwiej z niej handlować z innymi członkami Wspólnoty.

Jedno wspólnie z Rosjanami winniśmy Białorusinom - pomóc w odbudowie ich narodowości; a zwłaszcza - języka. Myśmy im przez wieki wynaradawiali dawne elity (150 lat temu na Smoleńszczyźnie, 300 kilometrów od Moskwy, WSZYSTKIE dwory były polskie), potem Rosjanie wynarodowili albo wyrżnęli elity współczesne. Dziś mówią po białorusku - polscy Białorusini. Białoruscy - nie. Trzeba im więc pomóc zrobić atrakcyjną białoruską telewizję, białoruskie radio, i to lepsze niż rosyjskie, żeby szukali białoruskich fal także z ciekawości, nie tylko z patriotyzmu (Fundacja Centrum Prasowe dla Krajów Europy Srodkowej i Wschodniej mogłaby tu wiele zrobić, pod opieką International Media Fund). Trzeba im pomóc tłumaczyć na białoruski całą literaturę światową (Sokrat, ktoś musi opracować taki program), nie mówiąc już o podręcznikach. I trzeba by im opowiadać, jak w XIX wieku odbudowywali z niebytu swoją narodowość bracia Czesi, bo cudzy przykład sukcesu w podobnej sytuacji najlepiej uczy optymizmu. Optymizm zaś i wiara w siebie to chyba towar najpotrzebniejszy dziś na Białorusi.

Słuchajcie, chyba nie brakuje po Polsce przyjaciół Białorusi...? Hę?

**Stefan BRATKOWSKI**
**(Gazeta Wyborcza, Nr. 96 z 24-25.04.1993r.)**

<u>Ліст у рэдакцыю</u>

**Шаноўнае Спадарства!**

Сардэчна ўсіх Вас вітаю! Перадаю гарачую падзяку за станоўчае і хуткае вырашэнне пытання падпіскі і за кніжкі, якія я прасіў. Чытаючы апошні нумар "Нівы" ад 28 сакавіка 1993 г., я ўсведаміў сабе, што рэдакцыйны калектыў - гэта людзі высокай культуры. У артыкуле "Лёс зямлячкі" Андрэй Гаўрылюк прапануе, каб "Ніву" прадаваць у цэрквах. І што Вы адказваеце на гэта? Адкрыта, па-мужчынску і з пакорай пішаце, што ў Вашым тыднёвіку ёсць аж надта розных слоў, друкуюцца розныя артыкулы, незаўсёды святыя і таму, шануючы Царкву, не хочаце продажу ў храмах.

Пакора - гэта праўда, а праўда - гэта пакора. Як каталік пішу, што Божая Маці ў пакоры сказала праўду: "Блаславёнай зваць мяне будуць усе народы".

Такая пазіцыя ставіць Вас на еўрапейскім узроўні. Вельмі Вам за гэта дзякую і жадаю поспехаў у працы. Хачу яшчэ Вам паведаміць, што прабываючы ў Рыме, наведаў я базіліку святога Аляксея. Бачыў я яго дом у падвале базілікі, студню, а ў базіліцы над алтаром захоўваюцца сходы ў бацькоўскі дом, пад якімі правёў ён 20 гадоў. Дзякую за гэты артыкул.

**брат БРАНІСЛАЎ КАВЭЦКІ**
францысканец
Катавіцы, 5.04.1993 г.

# СВЯТКАВАННЕ Ў СІДНЕІ

*Вельмі шаноўны Спадар Рэдактар!*

*Перасылаю Вам апісанне ўрачыстага святкавання 75-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў Сіднеі (Аўстралія). Трымаем цесную сувязь з Бацькаўшчынай і з хваляваннем наглядаем заходам „беларусізацыі” беларускага нацыянальнага жыцця. Верым, што, нягледзячы на ўсе труднасці ды наўмысныя перашкоды тых, якія хацелі б зноў накінуць кайданы на беларускі народ, Маці-Беларусь упэўнена, хаця і вельмі паволі, ідзе да канчатковага і пастаяннага замацавання сваёй Нацыянальна-Дзяржаўнай Незалежнасці. Усе дзеткі Маці-Беларусі, нягледзячы на месца іхняга знаходжання ці палітычныя перакананні, павінны намагацца, каб нашая краіна ўжо ніколі болей не была змушаная перажываць тыя жудасныя здзекі ды планава выконваны генацыд, ад якіх Яна вось толькі што пачынае прыходзіць да нацыянальнай прытомнасці.*

*Перасылаем усім Вам свае шчырыя прывітанні з далёкай Аўстраліі і жадаем Вам далейшага поспеху ў будучыні.*

*Жыве Беларусь!!!*

*З пашанай да Вас,*

**АЛЕСЬ АЛЕХНІК**
**Генеральны сакратар**
**Беларускай асацыяцыі ў Аўстраліі**

* * *

Беларуская грамада Сіднея ўрачыста адзначала 75-ыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў нядзелю, 28-га сакавіка. З самой раніцы прыгожага, восеньскага ў Аўстраліі, дня, беларусы з усіх куткоў гэтага горада і ваколіцаў пачалі з'язджацца ў Праваслаўную царкву Амерыканскай юрысдыкцыі ў прыгарадзе Гомбуш, дзе святар-беларус, айцец Ігар (Хлябіч) адслужыў асобную Божую службу за Беларусь і беларускі народ, падчас якой царкоўны хор пад кіраўніцтвам Яўгена Падгайскага адспяваў гімн „Магутны Божа”. Падчас службы ў царкве красаваўся бел-чырвона-белы сцяг, які з гонарам трымаў Міхась Ціхан.

Урачыстая акадэмія, прысвечаная гэтай вялікай падзеі ў жыцці і гісторыі беларускага народа пачалася а 1-й гадзіне дня ў зале Беларускага клуба ў прыгарадзе Файрфілд, які загадзя быў перапоўнены беларусамі і іхнімі сябрамі. Было вельмі прыемна бачыць некалькі сем'яў нядаўна прыехаўшых у Аўстралію „новых” беларускіх імігрантаў, якія па прыездзе далучыліся да беларускай грамады. Старая беларуская эміграцыя, ці лепей сказаць аўстралійцы беларускага паходжання, з вялікай радасцю віталі іх і прынялі ўсіх да сваёй беларускай сямейкі.

Урачыстую акадэмію адкрыў Міхась Лужынскі, які ў сваёй уступнай ды змястоўнай прамове падсумаваў галоўныя прабегі гісторыі беларускага народа за апошнія 75 гадоў ад часу абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 г., і таксама падкрэсліў, што адзначаючы 75-ыя ўгодкі 25-га Сакавіка, ён таксама адзначае свой 50-цігадовы юбілей святкавання гэтай вялікай падзеі ў жыцці беларускага народа і паведаміў прысутных, што ён упершыню ўрачыста святкаваў яе ў 1943 годзе. З прывітальнымі прамовамі і гутаркамі выступалі Міхась Зуй, І. Лакцееў і Вячаслаў Ельхановіч, які таксама надоечы абняў функцыю кіраўніка Беларускай праграмы ў радыё СБС 2ЕА ў Сіднеі і які звярнуўся да прысутных слухачоў з просьбай дапамагаць у ягонай радыёвай працы.

Бурнымі воплескамі дзякавалі прысутныя за дасланыя прывітанні, асабліва ад лідэра Беларускага народнага фронту Зянона Пазняка, і ад старшыні Рады БНР. Найбольшымі апладысментамі абдорылі прысутныя васьмігадовую і прыгожанькую Вольгу Рыдэнка, якая прыехала сюды з бацькамі і братам сем месяцаў таму назад і якая так прыгожа і ўдала, хаця ціхавата, прадэкламавала верш Алеся Гаруна „Той мой брат, каго зваць беларусам”.

Афіцыйная частка святкавання закончылася супольным адспяваннем беларускага нацыянальнага гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, пасля чаго пачаўся супольны абед, падрыхтаваны Жаночым камітэтам, які ўзначальвае Вольга Тамашэўская. Абед, благаслаўлены айцом Ігарам зацягнуўся ў прыгожай і сяброўскай атмасферы да позняга вечара, пакідаючы ў прысутных сапраўды высокае нацыянальнае пачуццё і перакананне, што Рэспубліка Беларусь пераможа ўсе труднасці і перашкоды і ў параўнальна скорым часе стане адной з перадавых незалежных краін Еўропы.

**А. АЛЕХНІК**

# САБОРЫ

Саборы ў жыцці Царквы займаюць вельмі важную пазіцыю. Склікаюць іх у асаблівых сітуацыях, галоўным чынам з мэтай асудзіць фальшывыя навукі, развеяць усялякія сумненні ў пытаннях веры, а таксама дзеля вырашэння праблемаў звязаных з жыццём Царквы.

Падставай для склікання сабораў з'яўляюцца словы Хрыста: „...скажы Царкве, а калі і Царква не паслухаецца, то няхай будзе ён табе, як паганін і мытнік" /Мацвей 18, 17/, а таксама прыклад Святых Апосталаў, якія наладзілі Сабор у Іерусаліме.

Для Царквы асаблівае значэнне маюць саборы:

— **Апостальскі** — Іерусалім, 51 г.

— **Усяленскія**:

I/ 1-ы Нікейскі, 325 г.,
II/ 1-ы Канстанцінопальскі, 381 г.,
III/ Эфескі, 431 г.,
IV/ Халкідонскі, 451г.,
V/ 2-і Канстанцінопальскі,
VI/ 3-і Канстанцінопальскі,
VII/ 2-гі Нікейскі.

— **Памесныя**: Анкіра /314-315 г.г./, Неацэзарэя /315 г./, Гангра /340 г./, Антыёхія /341 г./, Лаадыкея /364 г./, Сардзіка/347 г./, Карфаген/318 г./, Канстанцінопаль /394 г./, Канстанцінопаль /861 г./.

У памесных саборах удзельнічаюць епіскапы мясцовай Царквы /данай краіны, правінцыі, і т.п./, а ва ўсяленскіх — епіскапы з усяго хрысціянскага свету /па меры магчымасці/.

### АПОСТАЛЬСКІ САБОР — ІЕРУСАЛІМ, 51 г.

Галоўнай прычынай склікання гэтага сабора былі разыходжанні ў поглядах, а нават сваркі, паміж хрысціянамі яўрэйскага паходжання і хрысціянамі з навернутых язычнікаў. Першыя вучылі, што паганцы павінны спачатку падвергнуцца абразанню, потым выпаўняць іншыя распараджэнні майсеевага закону і толькі пасля прыняць хрышчэнне. Другія лічылі гэтыя патрабаванні беспадстаўнымі і сцвярджалі, што існуе ўжо новы хрысціянскі закон і няма патрэбы прытрымоўвацца ранейшага закону. Асабліва бурныя спрэчкі разгарнуліся ў гэтай справе ў Антыёхіі і мясцовыя хрысціяне звярнуліся да апосталаў, якія знаходзіліся ў Іерусаліме, з просьбай вырашыць гэтую супярэчлівую праблему. Напэўна вядома, што ў Апостальскім Саборы ўдзельнічалі апосталы Пётр, Павел, Варнава і Якуб, які быў першым епіскапам Іерусалімскай Царквы. Гэты апошні і старшыняваў Сабору. Святая традыцыя гаворыць, што сам Хрыстос, які аб'явіўся Якубу пасля Уваскрашэння, назначыў яго епіскапам Іерусаліма.

Сабор вырашыў, што хрысціянам не трэба выконваць абрадаў, звязаных з майсеевым законам, але загадаў клапаціцца аб выпаўнянне маральнага закону, які засяроджваўся ў словах:„не чыніце іншым таго, чаго і сабе не жадаеце". Рашэнні сабора былі спісаны і замацаваны словамі:„Бо падумалася Духу Святому і нам..." /Дз. Ап. 15, 18/ і перададзены хрысціянам Антыёхіі вучнямі Апосталаў. Апостальскі Сабор установіў 85 канонаў. Вось некаторыя з іх:

1. Епіскап мае быць высвячаны двума або трыма епіскапамі /Епископа да поставляют два или тры епископа/.

2. Прэсвітэр, дыякан і іншыя свяшчэнаслужыцелі няхай назначаюцца адным епіскапам.

6. Епіскап, прэсвітэр або дыякан няхай не абцяжарвае сябе зямнымі справамі. У адваротным выпадку няхай пазбавяць яго пастырскай годнасці.

20. Калі нехта са свяшчэннаслужыцелей паручыцца за некага, няхай будзе пазбаўлены годнасці.

58. Епіскап або прэсвітэр, калі не дбае пра святарства і вернікаў, калі не вучыць іх набожнасці, няхай будзе пазбаўлены пасады. Калі аднак будзе трываць у гэтай бестурботнасці і ляноце, няхай будзе пазбаўлены годнасці.

69. Калі нейкі епіскап, прэсвітэр, дыякан, іпадыякан, чтец або пявец не пасціць у часе Вялікага Посту перад Пасхай або ў сераду або пятніцу, за выключэннем перашкоды з увагі на цялесную знямогласць, няхай будзе пазбаўлены годнасці. Калі будзе гэта асоба свецкая, трэба яе адлучыць ад Святога Прычасця.

**С. Н.**



*Царква ў Фастах.* Мал. Яраслава Троца




### МОЖНА КУПІЦЬ КНІЖКІ

Звяртаем чытачам увагу на наступныя кніжкі, якія мае ў звычайнай продажы кракаўскі антыкварыят "Rara Avis".

У каталогу н-р 9 знаходзім:

Poz. 11 - Gloger Z., Geografia historyczna ziem dawnej Polski, Kraków 1900. Cena 200 tys. zł.

Poz. 57 - Roman S., Średniowieczny ruski przekład statutów ziemskich Kazimierza Wielkiego i Władysława Jagiełły, Wrocław 1950. Cena 60 tys. zł.

У каталогу н-р 10 знаходзім:

Poz. 10 - Czacki T., O litewskich i polskich prawach..., T. 1-2, Warszawa 1800-1801 /reprint 1987/. Cena 100 tys. zł.

Poz. 20 - Karpiński M., Ustawodawstwo partykularne ruskie w XV wieku, Lwów 1935. Cena 50 tys. zł.

Poz. 21 - Karwasińska J., Archiwa Skarbowe Koronne i Obojga Narodów, W-wa 1929. Cena 30 tys. zł.

Poz. 34 - Litwa za rządów ks. Isenburga, Kraków 1919. Cena 90 tys. zł.

Poz. 72 - Rawita-Gawroński F., Żydzi w historji i literaturze na Rusi, W-wa /191?/.Cena 160 tys. zł.

Poz. 122 - Rizzi Zannoni J. A. B., Carte de la Pologne divisee par provinces et palatinats, Paryż 1772 /miedz. ręcznie kolorowany na ark. 62,5 x 46 cm/. Nr 7 - Województwo Wileńskie, Połockie y Witebskie. Cena 1 mln 400 tys. zł.

Poz. 123 - jak wyżej. Nr 10 - Xięstwo Biskupstwo Warmińskie. Część Poł. Województwa Trockiego, y Pruss Brandenburskich, Część Półn. Podlasia y Mazowsza. Cena 1 mln 400 tys. zł.

Заказы можна накіроўваць на адрас: Antykwariat "Rara Avis", ul. Szpitalna 7/4/1 piętro/, 31-024 Kraków. Можна таксама заказваць і па тэлефоне: /0-12/ 22-03-90.

**ПЁТР БАЙКО**

## СВЯТЫ АПОСТАЛ І ЕВАНГЕЛІСТ МАРК

Быў ён адным з ліку сямідзесяці апосталаў, вучнем Пятра. Па паходжанні быў ён яўрэем, сваяком іншага з ліку 70-ці — Варнавы. Маці яго мела ў Іерусаліме ўласны дом, у якім часта сустракаліся хрысціяне. Марк быў надта ўражлівым чалавекам, а адначасна вельмі энергічным і жывым. На хрысціянства праўдападобна навярнуў яго апостал Пётр. З Іерусаліма Марк разам з Варнавам падаліся ў місійнае падарожжа на Кіпр.



Сваю далейшую дзейнасць працягваў ён з апосталамі Паўлам і Пятром. З гэтым апошнім прабываў у Рыме. Пад канец жыцця апостал Марк падаўся ў Егіпет, дзе залажыў некалькі цэркваў. Загінуў ён мучаніцкай смерцю ў Александрыі каля 68 г. н.э.

Апостал Марк з'яўляецца аўтарам **другога Евангелля**, якое напісаў ён каля 60 года праўдападобна пад кірункам ап. Пятра. Прызначана яно было галоўным чынам для хрысціян, якія выводзіліся з язычнікаў і жылі ў Рыме. Падкрэслены ў ім цуды і спосаб разбуджвання веры вучняў Хрыстом. Складаецца яно з 16 раздзелаў.

**Першае Евангелле**, св. Мацвея, прызначанае для хрысціян, якія выводзяцца з яўрэяў, пражываючых у Палесціне. Асабліва падкрэсліваецца ў ім тое, што Хрыстос — гэта той чаканы Месія, а таксама прапаведваецца, насупеперак спадзяванням яўрэяў, звышнатуральнае Божае Царства. Евангелле ўзнікла ў палове I стагоддзя і мае 28 раздзелаў.

**Трэцяе Евангелле**, св. Лукі, прызначанае навернутаму з язычаства высокаму ўрадніку Феафілу і іншым хрысціянам з паган. Падкрэслівае яно, што Хрыстос з'яўляецца Збавіцелем усіх людзей. Узнікла яно ў пачатку 60-х гадоў і зтмяшчае ў сабе 24 раздзелы.

**Першыя тры Евангеллі** называюцца **сінаптычнымі**, бо лёгка заўважыць іх падабенства (вельмі выразнае), але таксама і розніцы.

**Чацвёртае Евангелле**, св. Яна Багаслова, было прызначана хрысціянам у Малой Азіі, дзе пачалі тады пашырацца розныя лжэнавукі, якія адкідалі боскасць Хрыста. Евангелле падкрэслівае Яго боскасць, сэнс жыцця, навукі і цудаў Ісуса. Узнікула яно на пераломе I і II стагоддзяў і складаецца з 21 раздзела.

У гэтым месцы трэба адзначыць, што ў кожнага евангеліста ёсць свой атрыбут, сімвал: у Мацвея — анёл, у Марка — леў, у Лукі — вол, у Яна — арол. Выводзяцца яны з аб'яўлення Іезекіля і Апакаліпсіса св. Яна.

Памяць св. апостала і евангеліста Марка ўшаноўваем 8 мая (25 красавіка па ст. стылю).

**С. Н.**

## БАЛАГАН ЦІ МІСІЯ ?

У такіх умовах, як цяпер, трэба хіба цуду, каб у нас захаваць беларускасць. Яшчэ да сакавіка г.г. магчымым было ў Беластоку слухаць радыёперадачы з Менска ці Гародні, прынамсі на ультракароткіх хвалях. Цяпер у 5.45 на гэтым дыяпазоне ўключаецца радыёстанцыя „Radio Maryja" — Katolickie Słowo w Waszych Domach". На працягу цэлага дня беларускага слова не пачуеш. „Radio Maryja" транслюецца ў Беластоку незаконна. Балаган гэта, ці місія?

Другая справа. Ніхто ў Беластоку не пачуваецца да абавязку кансерваваць антэны „беларускага" канала тэлебачання. Калісьці яшчэ магчымым было купіць беларускую кніжку. Цяпер іх у беластоцкіх кнігарнях няма. А зараз выдаецца штораз больш цікавых кніжак і таннейшых чым у Польшчы.

Маем цяпер больш беларускіх арганізацый, якія перш за ўсё сварацца між сабою. Супольна ці паасобку павінны яны паўплываць на тое, каб магчымым было слухаць і аглядаць перадачы з Менска і Гародні.

**АЛЯКСАНДР ДАБЧЫНСКІ**

# ЗГАРЭЛА ФАБРЫКА ДЗЯЦЕЙ

Пачатковая школа ў Рагачах была закрыта 31.08.1992 года. Ліквідаваў яе беластоцкі куратар асветы, кансультуючыся раней з гміннай уладай у Мілейчыцах. Управа гміны прыняла прапанову без энтузіязму, але і не прабуючы ўнушаць асветным уладам якую-небудзь іншую развязку. У лісце ў Кураторыю (30.03.92) чытаем: „калі Куратарыя прыме рашэнне аб ліквідацыі Пачатковай школы ў Рагачах, войт, нягледзячы на цяжкасці, сарганізуе дзецям транспарт у Мілейчыцы".

**Беспрацоўная цяпер дырэктар рагачоўскае школы, Юлія Такаюк кажа:** „Дзесьці ў маі мінулага года накіравалі мы ў Кураторыю ліст з просьбай, каб нашу прыгожую школу не зачынялі. Адказу аднак не дачакаліся, вырашылі ўсё без нас. Я лічу, што школу ў Рагачах можна было ўтрымаць, на Беласточчыне ёсць жа прэцэдэнты, дзе ў школе не больш вучняў, чымсьці ў нас. Каб войт даў крыху грошай на вугаль, астатнія дакінулі б бацькі і неяк патрымаліся б. Ад нейкага часу колькасць дзяцей утрымоўваецца на тым самым узроўні, напрыклад, у мінулым годзе ў школьным узросце было 32 дзяцей, а ў гэтым — 33. Але войт сказаў, што яму, замест утрымліваць школу, танней будзе дзяцей давезці тыя 7 кіламетраў. Аднак, калі толькі горшае надвор'е і псуецца дарога, аўтобус далей Рагачоў не едзе, а з пачатку нашай Галубоўшчыны туды 3 кіламетры, з другога канца будзе нават 5. Таксама дзеткам з Баравікоў і Левашоў даводзіцца пехатою брысці праз гразь ці снег".

У лісце бацькоў вучняў, які мы друкавалі тыдзень таму, поўна было катэгарычных сцвярджэнняў-патрабаванняў вярнуць школу ў Рагачах. На месцы ўсё больш скамплікаванае. Людзі ў сапраўднасці не такія рашучыя, а хутчэй разгубленыя, хацелі б змяніць такую сітуацыю, аднак не ведаюць як.

**Ірэна Астапчук з Мікуліч паказвае на школу:** „Вы паглядзіце толькі на гэты будынак — прыгожы, прасторны, светлы, — куды там да яе школе ў Мілейчыцах. Ці ж так трэба, каб ён змарнаваўся? Мае старэйшыя дзеці тут правучыліся і пайшлі ў свет, чаму не могуць вучыцца тут меншыя? Наслухаешся ад іх, што робіцца ў дарозе! Прастуджваюцца, хварэюць, меншыя пакуль вернуцца дахаты, да таго аслабнуць, што і млеюць. Усяляк там падчас гэтых даездаў бывае.

І беларускую мову зліквідавалі. А каму яна мяшала? Не нам жа і нашым дзецям, бо яна ж родная".

Хаця жыхары Рагачоў, Мікуліч, Мядзвежак, Галубоўшчыны, Баравікоў і Левашоў у сваім лісце рашуча патрабуюць вяртання школы, аднак самі разумеюць, што на гэта дзяцей малавата (прынамсі 50 трэба). Вядома, найлепш было б мець сваю 8-класную школу, бо ў ёй і дзеці лепш сябе адчувалі. У Мілейчыцах яны раптам апынуліся ў цалкам іншым асяроддзі, сярод незнаёмых калег і настаўнікаў. Але, калі немагчыма ўтрымаць поўную „падставоўку", дык можа хаця філіяльны пункт для наймешых.



*Па навуку ў Мілейчыцы — гмінным аўтобусам.*

Самае мінімальнае патрабаванне — палепшыць давоз дзяцей. Аўтобус, напрыклад, не даязджае да Галубоўшчыны, а разварочваецца паўкіламетра раней. Калі псуецца дарога — зімой ці напрадвесні — едзе толькі ў Рагачы. Там забірае ён іх каля пажарнай святліцы. Калі адзін з двух гмінных аўтобусаў псуецца, дзецям даводзіцца чакаць каля зачыненага будынка і ў снег, і ў дождж.

Ці сапраўды не можна пайсці на руку дзецям і, нягледзячы на кошты, пасалаць аўтобус некалькі сот метраў далей? Або, ці ў вёсцы, дзе большасць — пенсіянеры, не можна знайсці бабулю ці дзядулю, якія пасядзелі б з гадзіну ранічай у клубе ў будынку пажарнай стражы? Такія справы можна вырашыць без асаблівай натугі і сродкаў, абы была добрая воля.

Я хацеў бы звярнуць увагу яшчэ на адзін аспект ліквідацыі школы ў Рагачах. Калі вучняў перавезлі ў Мілейчыцы, пазбавілі іх магчымасці вывучаць беларускую мову. У верасні мінулага года, праўда, у планах працы школы ў Мілейчыцах зафіксавана было 12 гадзін беларускай мовы ў тыдзень. Ва ўрачыстым адкрыцці навучальнага года прысутнічала нават настаўніца гэтага прадмета (тая ж самая Юлія Такаюк), але планы дзесьці на працягу месяца памяняліся. Калі свае абавязкі стала выконваць цяперашняя дырэктар Эва Раманюк, ні беларускай мовы, ні пані Такаюк у школе ўжо не было.

**Напэўна ніхто з бацькоў просьбы аб вызваленні сваіх дзяцей ад беларускай мовы не складаў. Сталі яны проста ахвярамі арганізацыйных пераўтварэнняў.**

А вінаваты ва ўсім „пажар фабрыкі, якая рабіла дзяцей", сказаў мне адзін чалавек каля крамы ў Рагачах. „Я не помню, калі гэта сталася, — працягваў ён, — але ўвесь заняпад з-за таго. І ніхто не збіраецца гэтую фабрыку адбудоўваць, замест таго будуюць усё новыя ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы..."

Сёння на ўсю Мілейчыцкую гміну адна школа, у якую ходзіць 274 дзяцей.

Што далей будзе ў Рагачах? „Не на тое мы ліквідавалі школу — кажа дырэктар Антаніна Застоцкая з беластоцкай куратарыі, — каб яе нанава адчыняць. Гэта было б несур'ёзна. Але сітуацыі тамака яшчэ прыгледзімся."


*Пусты будынак рагачоўскае школы.*

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**

<u>На спартыўнай ніве</u>

## ВЯСНА ВЯСКОВЫХ БЕГУНОЎ

У Беластоку адбыліся раённыя спаборніцтвы лепшых бегуноў сярод дзяцей і моладзі падставовых школ. На дыстанцыі 500 метраў першае месца заняла Анна Казёл з Падставовай школы ў Гарадку, а на дыстанцыі 1000 метраў — Юстына Антановіч таксама з гарадоцкай школы. Сярод юнакоў на фінішы 1000-метровай дыстанцыі першым быў Андрэй Кяртовіч з ПШ у Заблудаве. На дыстанцыі 1500 м першынство заваявала Агнешка Паплаўская з міхалоўскай школы.

На раённых спаборніцтвах у Саколцы пераможцамі сталі наступныя юныя спартсмены: на дыстанцыі 500 м Івона Гуменна (ПШ Новы Двор) і Казімір Альховік (ПШ Крынкі); 1000 м — Уршуля Лукашэвіч (ПШ Сідра) і Павел Скроўба (ПШ Крынкі); 1500 м — Дарота Койкал (ПШ Сідра) і Войцех Куц (ПШ Новы Двор).

**яц**

## ДЭКЛАМАТАРЫ У ЗЯЛЁНЫХ МУНДЗІРАХ

Дэкламатарскі гурток у Лясным тэхнікуме ў Белавежы, пад кіраўніцтвам настаўніцы Альжбеты Ляпрус, дзейнічае ўжо шосты год. Зараз займаецца ў ім 15 вучняў з розных класаў.

Маладыя энтузіясты прыгожага слова штогод удзельнічаюць у агульнапольскіх конкурсах і часта вяртаюцца з узнагародамі. У апошніх месяцах прымалі яны ўдзел у конкурсах у Беластоку, Дзержанёве, Скаржыску-Каменнай і Пранях, што ля Руцянага-Ніды. Найлепш сябе адрэкамендаваў Януш Мікіцюк, які заняў III месца ў ваяводскіх элімінацыях агульнапольскага красамоўнага конкурсу ў Голюбю-Добжыню.

Паспяхова для белавежскіх вучняў закончыліся таксама ваяводскія элімінацыі XXXVIII Агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу, якія праходзілі ў сакавіку г.г. З Белавежы ўдзельнічала ў іх шэсць чалавек. Узнагароду ў катэгорыі манадрамы ўзяў Войцех Томкель. IV-ую ўзнагароду ў дэкламатарскім турніры заваяваў Альберт Матышэк, а ў турніры спяванай паэзіі вылучэнне II ступені атрымалі Ялanta Пэрыт, Гжэгаж Сермантоўскі і Войцех Томкель.

Варта дабавіць яшчэ, што ў красавіку г. г. у Лясным тэхнікуме ў Белавежы адбудзецца III Школьны літаратурны конкурс, а ў маі-чэрвені г. г. I Агульнапольскі турнір дэкламатарскага і тэатральнага мастацтваў п.з. „Чалавек і прырода".

**ПЁТР БАЙКО**

## ПРА ПАНФІЛЮКА

Нашыя карэспандэнты многа ўжо напісалі пра Панфілюка: і добрага, і дрэннага. Мікалай мае права пісаць пра ўсіх і ўсё. Мяне толькі непакоіць, як вытрымоўвае яго жонка. Панфілюк мае характар адкрыты і піша, што думае, не зважаючы, ці перад ім інжынер, ці доктар, ці прафесар. Калі захоча камусьці дапячы, то зробіць гэта так дакладна, што і Грыша Мароз змерзне. Здаецца, што Мікалай забывае, хто што гаварыў, пішучы, напрыклад, што на з'ездзе карэспандэнтаў мой сябра Пётр Байко карыстаўся польскай моваю, калі тым часам рабіла гэтае іншая асоба. Інж. Барыславу Рудкоўскаму так ён дапёк, што той аж перастаў пісаць. Мяне таксама часам чапаў, але я прабачыў яму. Кожны чалавек мае свае погляды на жыццё і на абставіны, у якіх жыве. Раней была адна ўлада, цяпер настала другая, а жыццё трэба браць такім, які яно ёсць на штодзень. Трэба рэальна глядзець на тое, што дзеецца навокал і старацца, каб нікога за гэта не абвінавачваць, бо чытачы будуць гаварыць, што ў „Ніве" толькі сварацца паміж сабою. Думаю, што Мікалай перадумае свае паводзіны і пакаецца. А вы, Пятро, Барыслаў, Грыша, Аляксандр, Віця і іншыя прабачце яму, так як і я прабачыў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

P.S. З нагоды 70-годдзя з дня нараджэння Георгія Валкавыцкага жадаю Яму і яго жонцы Веры многа здароўя ды доўгага жыцця, шчасця і радасці.

**А.Г.**




Мяне вельмі здзівіла рэпліка старшыні літаб'яднання „Белавежа" спадара Яна Чыквіна ў 15 н-ры „Нівы" на пісьмо Дарафея Парфенюка. Ян Чыквін стараецца ў ёй апраўдацца і піша няпраўду, звальваючы пры гэтым віну на мяне і на Ю. Баену, быццам мы не згадзіліся „ўнесці папраўкі ці проста дапрацаваць" той ці іншы твор у нашых зборніках. Калі б гэта была праўда, дык не было б праблемы і зборнікі былі б дапрацаваны. Наколькі я ведаю, у зборніку Ю. Баены спадар Ян Чыквін заквалifікаваў толькі адзін верш да друку. Але аб гэтым хай піша сам Юрка Баена.

Машынапісы зборнікаў „Эцюды падарожжа" і „Маё Падляшша" былі перададзены ў ГП БГКТ яшчэ ў 1985 г. Калі я ў канцы 1988 г. вярнуўся з Індыі, дык мне сказалі, што зборнікі прайшлі ўсе этапы кваліфікацыі і праверкі і ўжо годныя да друку, але толькі з-за недастатку грашовых сродкаў іх яшчэ не выдалі. Калі „Белавежа" аддзялілася ад БГКТ і атрымала датацыю на выдаванне зборнікаў „белавежцаў", новы старшыня „Белавежы" Ян Чыквін папрасіў перадаць яму мае зборнікі. Аднак ад „Эцюдаў падарожжа" ён адразу адмовіўся, бо быццам бы яны не падыходзяць тэматычна. Так што ніякі рэдактар не рыхтаваў іх да друку і не мог унесці папраўкі ані іх дапрацоўваць. Спачатку сп. Ян Чыквін даў надзею, што пойдзе да друку зборнік „Маё Падляшша" і нават у „Ніве" было аб гэтым напісана. Сябра Віктар Швед узяўся яго перагледзець і зрабіць карэктуру зборніка, за што я яму вельмі ўдзячны. Ён хутка гэта зрабіў і зборнік на пачатку 1991 г. быў гатовы да друку. І тады сп. Ян Чыквін запрапанаваў члену ўправы „Белавежа" В. Шведу, каб ён пакараціў усе мае вершы, каб кошт іх выдання быў меншы. Сп. Віктар Швед адмовіўся гэта зрабіць, сп. Ян Чыквін не дапусціў зборніка да друку. Я меў яшчэ надзею, што можа ў наступным годзе знойдуцца жаданыя грашовыя сродкі. Але сп. Ян Чыквін пагневаўся, што В. Швед яго не паслухаў і не меў намеру зборнік выдаваць. Ведаючы, што „Эцюды падарожжа" не маюць шанцу ўвайсці ў выдавецкія планы Яна Чыквіна, я пастанавіў надрукаваць іх за свой кошт і зборнік гэты паявіўся ў красавіку 1992 г. А „Маё Падляшша" далей ляжала ў „Белавежы". Нават мая прапанова, каб „Белавежа" выдала гэты зборнік за мой кошт была адкінутая сп. Янам Чыквінам. Зрабіла гэта ахвотна ГП БГКТ, за што я вельмі ўдзячны старшыні ГП БГКТ доктару А. Баршчэўскаму і сп. Я. Сычэўскаму. Старшыня літаб'яд-нання Ян Чыквін, трымаючы датацыі ў сваіх толькі руках, стаў Галоўным цэнзарам і Выдаўцом усіх зборнікаў, не браў пад увагу пагляд аў іншых членаў управы „Белавежы" і рашаў за ўсіх сам адзін. Выдаваў толькі зборнікі тых членаў літаб'яднання, якія яму падабаліся. Ён не браў пад увагу, што не ўсё, што яму падабаецца, будзе падабацца ўсім чытачам. Калі б ён сам прытрымоўваўся тэорыі, аб якой піша ў згаданай рэпліцы, што аднаму падабаецца металічная музыка, другому рокавая, а трэцяму сімфонія Бетховена і браў пад увагу погляды іншых членаў управы літаб'яднання, то не трэба было б так няўдачна апраўдвацца, звальваючы віну на „пакрыўджаных", як ён піша. А цяпер я б хацеў вельмі, вельмі падзякаваць спадару Дарафею Парфенюку за яго прыхільную ацэнку майго зборніка „Эцюды падарожжа" і за 400 долараў, якія я ад яго атрымаў. Я, калі іх атрымаў (паведамленне з ПКО прынёс паштальён), думаў што гэта нейкая памылка, пакуль не прыйшло пісьмо ад спадара Д. Парфенюка. У мяне ніколі нават і думкі не было, што я магу атрымаць такую падзяку ад чалавека, якога я ніколі не знаў і не бачыў. Я б і без гэтых долараў выдаў свой зборнік (бо я не такі ўжо бедны), але яны прыйшлі ў той момант, калі трэба было плаціць друкарні. Гэтая дапамога пакрыла ўсе кошты майго другога зборніка. За першы зборнік „Эцюды падарожжа" мае выдаткі вярнуліся ў 60 %, але гэта каштавала мяне шмат працы з перасылкай кніжак да ўсіх, якія прасілі мяне даслаць іх. Я ўдзячны „Ніве" за тое, што надрукавала мой адрас. Гэта мне вельмі дапамагло ў размеркаванні зборнікаў. Трэба мне наканец пахваліць тут М. Пан-філюка, які ў „Ніве" заступіўся (паводле Яна Чыквіна беспадстаўна) за Янку Целушэцкага. Яго артыкул высветліў частку праўды аб выдаванні зборнікаў „белавежцаў".

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

**Паважаны Галоўны рэдактар!**

Ветліва дзякую за запрашэнне да палемікі. Адказваць на зачэпкі Вашых карэспандэнтаў быў бы сэнс толькі тады, калі б яны выказвалі новыя думкі. Ім хочацца, каб з кім-небудзь вязаць цапы. Малаціць салому слоў я не маю часу ні ахвоты ні са сп. Д. Шатыловічам, які пацвярджае мае ранейшыя спасцярогі, ні з яго прыхільнікамі, ні ахайнікамі.

**ЯН ЧЫКВІН**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**10 - 05 - 1989 г.**

(...) Саветы істэрычна рэагуюць на „Кантакт", асабліва на публікацыю Туронка пра звальванне імі на немцаў генацыду беларусаў. Не здагадваюцца, дзе выходзіць (праўдападобна таму, што нефармалы — такія чуткі — перавыдалі ў сябе „Кантакт"). — Vide: „Вячэрні Мінск", 26 красавіка, стар. 3. (...)

**15 - 05 - 1989 г.**

Учора вярнуўся з Ольштына, з Усяпольскага семінара беларускіх студэнтаў (12 - 14.V.).

Уся гэтая імпрэзка адбывалася ў прыазёрным асяродку Młodość у Мельне, што блізка грунвальдскіх палёў (на кошт студэнцкай арганізацыі ZSP). Арганізоўвалі Раман Семянюк, Уладзімір Пац (родам ён з Кнышэвіч). Удзельнікаў — мала — каля 30 чалавекаў; крыху з Варшавы, Гданьска, Беластока. Даклады мелі: Юрка Туронак пра беларуска-польскія ўзаеміны, Яўген Мірановіч пра пасляваеннае становішча беларусаў у ПНР, і я пра гістарычны працэс беларускай нацыянальнай свядомасці. Было трохі пытанняў, але няшмат, бо ўсё ім цалкам новае, гэтым анальфабэтам беларускай культуры. Затое дыскатэкі і вогнішча былі на славу (спевы „Дубіноў", з плёнкі). І выезд пад Грунвальд, з бела-чырвона-белымі сцягамі (як усякае гістарычнае поле, расчаравала яно мяне сваёй звычайнасцю).

Завёз дзяўчатам і хлопцам горбу літаратуры (м.ін. шмат Данусевай „Рэанімовы").

У канцы мінулага тыдня Юрка Ляшчынскі раптам эміграваў у Мюнхен, на работу ў радыёстанцыі „Свабода". Шкада! Інтэлігентныя хлопцы патрэбны тут, на радзіме. Відаць, звёў яго Мойсік, які з-пад Бельска трапіў у ватыканскае радыё, і ў м.г. запрасіў быў Юрку ў Рым.(...)

Грамадзянскі Камітэт „Салідарнасці" выпусціў адозву па-беларуску, дэкларацыю аб сваёй прыхільнасці да меншасцяў (перш па-польску). Распаўсюдзім у змешаных асяроддзях і ў гарадах, каб памякчыць польскую сцяну ад нас.

**22 - 05 - 1989 г.**

Учора меў добрае выступленне сваё я ў гайнаўскім амфітэатры, у якім наладзілі перадвыбарчы мітынг партыйцы з саюзнікамі. Дапусцілі, бо ж я з Мірановічам не канкурэнты ім. Гаварылі мы па-беларуску, што было вельмі сенсацыйна ўспрынята няздзельнай публікай; апладысменцілі нам больш, чым палякам. Удаеная інаўгурацыя беларускіх палітычных выступленняў, першых ад вайны і самастойных.

Там жа мелі мы ўтому, даючы інтэрв'ю ўсякім праграмам TV (з'явіўся і А. Панкевіч са сваёй экіпай).

У акружэнні тэлевізарнікаў — некаторыя матывы пераздумалі — гэта знакаміты працяг настрою, які я з Генікам стварылі сваёй беларускай аднaзначнасцю, прэтэндэнцтвам на прадстаўніцтва беларусаў у парламенце. Рынуліся яны да нас, да новай тэмы, кінуўшы банальныя размоўкі з польскімі кандыдатамі.

Словам, немалая ўдача, калі глядзець на гэта ў аспекце перадвыбарчай барацьбы.

Пазваніў Антось Міpaновіч: выставіўшы сваіх кандыдатаў, незалежна ад галоўных палітычных сілаў, мы ўжо выйгралі, нягледзячы на выніki выбараў!

Ездзячы па вёсках, каб развешваць свае плакаты, бачна, як мала ўжо ў іх народу жыве. Не яны будуць вырашаць сваімі нешматлікімі галасамі. — У суботу (20-га) быў у Паўлах. Хоць і цікавая была вечарына ды са шматлікімі іншымі гасцямі, аднак мелася ўражанне не надта эфектыўна праведзенага часу. Тут ужо падрыхтавала грунт „Ніва" з маім інтэрв'ю і беларуская радыёперадача з агітацыйным выступленнем Яся Морданя.

Сіла нашага ўздзелу — у беларускім сімвале, а не ў нейкай праграме, на якую наўрад ці зверне хто ўвагу, бо ўсе цяпер парабіліся радыкальнымі, бунтарнымі, і таму аднолькавымі, манатоннымі. І раптам — мы як беларусы і толькі беларусы!

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— ZSP — Zrzeszenie Studentów Polskich;*

*— Данусевай „Рэанімовы" — невялікі часопіс, які выходзіў у той час у Гародні пад рэдакцыяй вядомай паэткі Дануты Бічэль;*

*— А. Панкевіч — Андрэй Панкевіч, тэлевізійны рэпарцёр, які цікавіўся беларускімі праблемамі і неаднаразова пускаў у эфір свае кінарэпартажы пра нашу тут меншасць;*

*— Ян Мордань — вядомы дзеяч беларускага культурнага руху.*

# У „ПРЫБЛІЖЭННІ" АБ БЕЛАРУСАХ

Ужо трэці год дзейнічае Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне", якога адной з асноўных мэт з'яўляецца папулярызацыя ведаў аб гэтых нацыях у грамадстве і садзейнічанне такім чынам лепшаму супрацоўніцтву паміж імі. 24 красавіка г.г. у Варшаве адбыўся чацвёрты пленум Галоўнага праўлення гэтай арганізацыі. У першай частцы пасяджэння разглядаліся праграмныя справы, другая — была прысвечана беларускай культуры.

Сход адкрыў старшыня Таварыства прафесар Ежы Дамрош і зачытаў праграмна-справаздачны даклад, у якім, між іншым, было падкрэслена, што ў сваёй дзейнасці Таварыства „Прыбліжэнне" імкнецца абвяргаць стэрэатыпы (літовец — палякаед, украінец — рэзун, беларус — бальшавік), якія бытуюць у польскім грамадстве, а дзеля гэтага патрэбна папулярызацыя ведаў аб суседніх народах. У справаздачным перыядзе дзеячы Таварыства ўдзельнічалі ў канферэнцыі на тэму нацыянальных меншасцяў, арганізаванай Інстытутам культуры і ва ўсходне-еўрапейскіх семінарах, якія арганізаваў Грамадзянскі інстытут у Варшаве. У газеце „Słowo" быў апублікаваны адкрыты ліст „Інтарэсы ці вартасці" ў справе культуры, між іншым і ўсходніх нацыянальных меншасцей у Польшчы. Ідэя прыбліжэння прапагандавалася ў публікацыях членаў Таварыства, якія друкаваліся на старонках газет і часопісаў. Зараз у Вышэйшай сельскагаспадарча-педагагічнай школе ў Седльцах стварылася Лабараторыя рэгіянальна-этнічных даследаванняў (там цяпер працуе праф. Ежы Дамрош), якая будзе дапамагаць вывучаць і папулярызаваць ідэю прыбліжэння.

У плане працы на II і III квартал гэтага года прадбачваецца ўзнавіць выдаванне бюлетэня „Прыбліжэнне", арганізаваць IV усходне-еўрапейскі семінар, ладзіць экскурсію ў Цехановец і Белавежу і турыстычныя паездкі ва ўсходнія краіны, садзейнічаць ажыццяўленню задумы рэканструяваць архітэктурны комплекс у Мерачоўшчыне, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка.

У дыскусіі, якая разгарнулася пасля дакладаў кіраўніцтва, увагу ўсіх прысутных прыцягнула выступленне маладой дамы, свежаспечанай выпускніцы польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта, ураджэнкі Белавежы. Прапанавала яна апрацаваць даследчыцкую праграму для Беласточчыны з мэтай добрага вывучэння мясцовай рэчаіснасці (нацыянальнай, грамадскай, моўнай, культурнай). Аргументы, якімі падмацоўвала яна сваю прапанову, ашаршылі не толькі прысутных там беларусаў, але і бянтэжылі астатніх удзельнікаў пленума. На прыкладзе Белавежы і Гайнаўкі сцвердзіла яна, што невядома, хто такія жыхары гэтай тэрыторыі, бо не ўсе яны прызнаюцца да беларускасці ці ўкраінскасці, што польскае грамадства (яно там меншасць) знаходзіцца пад пагрозай. Заявіла яна таксама, што не было б ні беларускай, ні ўкраінскай культуры, каб не польская, што няма ясных крытэрыяў класіфікацыі тамашніх гаворак. Першай рэплікавала стала шматгадовая наша дзяячка Галена Анішэўская, таксама ўраджэнка Белавежы. Сказала яна, што сапраўды некаторыя беларусы не заўсёды прызнаюцца да сваёй нацыянальнасці. Прычынай гэтаму бывае не толькі нізкая нацыянальная свядомасць, але і страх перад неталерантнасцю большасці. Абсурдным палічыла яна сцвярджэнне, што польскасць у Белавежы знаходзіцца пад пагрозай і пералічыла прыклады талерантных адносін жыхароў пушчанскіх вёсак да нешматлікіх у іх палякаў. Нельга абагульняць інцыдэнты, гаварыла яна, а толькі прымаць засцерагальныя меры. Іншыя дыскутанты таксама абвяргалі памылковыя выказванні маладой экс-белавежанкі. Неталерантнасць большасці, яе агрэсіўнасць у адносінах да меншасці — гэта прычыны таго, што сваю нацыянальнасць скрываюць палякі ў іншых краінах, украінцы ў Польшчы (баючыся ранейшых рэпрэсій, а цяпер адмоўных адносін, аб чым гаварыў настаўнік гісторыі з украінскага ліцэя ў Гурове-Ілавецкім). Нярэдка аб нацыянальнасці вырашае і эканамічны фактар, аб чым гаварыў Анджэй Браўн з Музея незалежнасці ў Варшаве, паказваючы на „валькснагендойчаў" — тых жыхароў Шлёнска, якія раней лічылі сябе палякамі, а зараз шукаюць германскіх каранёў, каб толькі атрымаць нямецкі пашпарт і з'ехаць у ФРГ. Уся далейшая дыскусія вярцелася ўжо вакол складаных праблемаў нацыянальнай свядомасці, талерантнасці і пазбягання канфліктаў, што чарговы раз пацвярджае мэтазгоднасць існавання такіх арганізацый і сэнс склікання падобных форумаў.

У другой частцы пасяджэння адбылася сяброўская сустрэча пад лозунгам „Больш нас спалучае, чым раз'ядноўвае", якая гэтым разам была прысвечаная беларускай культуры. Спачатку Юры Туронак пазнаёміў сабраных з сітуацыяй на Беларусі і расказаў аб святкаваннях 75-х угодкаў БНР, у якіх ён сам удзельнічаў. Затым Галена Анішэўская расказала аб культурнай актыўнасці беларусаў у Польшчы да запрэзентавала выданні „Белавежы". Удзельнікі сустрэчы мелі магчымасць паслухаць з плёнкі беларускія песні ў выкананні Данчыка і беластоцкіх калектываў, купіць зборнікі „белавежцаў" і кнігу „Białoruś pod okupacją niemiecką" з аўтографам аўтара.

**В. ЛУБА**

# Зорка

## старонка для дзяцей

## НАСУСТРАЧ СОНЕЙКУ

Вы не бачылі, як ранак купае ў рацэ зару? Не бачылі, як блакітны гарызонт адсвечвае бронзай? Быццам з-пад вады праз сырадой густога туману выплывае сонейка. Вось яно выпнулася на вяршаліны дрэў, прыпынілася, як накалолася.

Здаецца, ялінкі прыўзняліся на "дыбачкі", выставілі насустрач сонцу сваё пацяжэлае ад расы галлё. А вярбовыя кусцікі, разамлелыя, як пасля парылкі, схіліліся ў нізкім паклоне.

## ЗЯЗЮЛІНЫ НЮАНСЫ

Выпадкова ўбачыў я, як зязюля выбралася з гнязда драздоў, паклаўшы, мабыць, там сваё яйка. "Рагатнуўшы", узляцела на высокую яліну, нібы абвяшчаючы ўсяму свету, што зрабіла добрую справу. Села на сук, адумалася, апусціўшы крылы, засумавала і... закукавала. У лясной цішыні голас яе гучаў і салодкім жалем, і задумлівай клапотнасцю.

З захапленнем слухаў я нюансы бяды, якую выказвала яна ў сваім будзённым "ку-ку"...

## ЗІМАРОДАК

З лесу ішоў паўз тэлефонныя слупы ў невялікую вёсачку. У наваколлі цямнела, нібы ў яго падлівалі шэрую фарбу. Раптам, як зялёны агеньчык, збоку мільгануў зімародак і сеў непадалёку.

Я схаваўся за алешыну. Стаяў нерухома і любаваўся яго блакітна-зялёным убраннем, быццам хтосьці знарок прымацаваў да цьмянай галінкі самацвет.

## КАРШУН-РЫБАК

Сядзім, любуемся жывымі фарбамі летняй раніцы і не глядзім на паплаўкі. І тут з'явіўся новы рыбак - каршун. Убачыўшы рыбіну, драпежнік каменем скіраваў з вышыні ў ваду, імгненна вострымі кіпцюрамі ўчапіўся ў здабычу. Але не па сіле аказалася ноша: каршун не змог узняцца з даволі ладным шчупаком, некалькі разоў паказаўся на паверхні вады, потым пайшоў на дно.

## ЛЯСНЫ СУВЯЗІСТ

Лёгкі ветрык пяшчотна пагойдвае хмызнякі, абвітыя сярэбранай ніццю - павуцінай. Здаецца, лясныя жыхары працягнулі ў сваіх уладаннях тэлефонныя правады. А дзе ж кантора сувязі? Я не знайшоў яе, а вось дзяжурны сувязіст - павучок - быў заняты сваёй справай: звязаў "правады", якія парвала муха.

## ЗАПРАШЭННЕ НА ЧАЙ

Прыемна было адпачываць у ельніку: адчувалася прахалода, з гушчэчы выплываў смалісты пах ігліцы.

І раптам амаль над галавою:

- Ч'ю-пі, ч'ю-пі!..

Прыглядзеліся: гэта драздзіха падае голас.

Сяргейка смяецца:

- Чуеш? Запрашае чай піць!

## ДЗІВА

У сасонніку за Сожам трактарны плуг праараў супрацьпажарную паласу. Нетаропка крочу збоку, са смакам п'ю лясную цішыню і - во дзіва! Пад глыбай перавернутай зямлі заўважаю баравік. Вялізны, бялявы, ён расце са "столі" шапкай уніз, да зямлі. Корань выгінаўся, пакуль не вывеў шапку на сонейка.

Зрэзаць грыб, які цудам вырваўся з пасткі, рука не паднялася.

## ВАВЁРЧЫНЫ ГРУШЫ

Малінавае сонца насоўвалася на вяршаліны дрэў, апускалася да зямлі. За паваротам дарогі пад дзікай грушай штосьці заварушылася. Прыпыніўся, гляджу: вавёрка ласуецца жаўтаватымі пладамі - падалкамі. Возьме ў лапы грушку, надкусіць і выкіне. Толькі смачную сярэдзінку пакаштуе.

Ох, і ласуха! Ды як ёй не быць пераборлівай: пад дрэвам такое багацце - у мяшок не збярэш.

Пакаштаваў і я вавёрчынай вячэры. Які салодкі мядовы пах!



*Бярэзнік.* **Фота В. Жушмы**

## ДАРМАЕД

Каля вялікага мурашніка сеў дрозд. Я сцішыўся і думаю: што яму там рабіць? Дрозд жа выцягнуў шыю і нешта дзяўбе.

Падышоў да мурашніка і ўсё зразумеў: птах адбіраў у мурашак вусеняў, якіх яны цягнулі з лесу.

"Ну і дармаед!" - міжволі падумалася пра драздагультая.

## ДЗЯТЛАВА КРЫНІЧКА

Стракаты дзяцел пастукаў па бярозе дзюбай-долатам, і з яе ранкі закапалі бліскучыя салодкія слёзы. Асвяжыўшыся бярозавікам, ён пакінуў сваю крынічку: няхай ласуюцца і іншыя лясныя жыхары.

Смачны пах прывабіў сюды мурашак. Яны напіліся і зноў папаўзлі на зямлю. Наведалі дзятлаву крынічку шыза-шэрая драздзіха і іншыя птушкі.

Шматгалосы лясны хор нібы набраўся свежых сіл пасля прыемнага ласунку.

## НАВУКА... ВЯРНУЦЦА

Схаваўшыся за калінавы куст, любуюся сям'ёю жураваў. Маладыя птахі стаяць паўкругам на пясчаным узвышшы, а перад імі горда праступае жораў бацька. Вось ён спыніўся, нібы падцягнуўся, стаў вышэйшы, прыдзірліва агледзеў сям'ю і курлыкнуў, што, мабыць, азначала: "Увага..." Прысеў, нешта схапіў з зямлі і падкінуў угору. Імгненне - жораў зрабіў некалькі спружыністых крокаў наперад, на ляту злавіў падкінутае і прыгвазўдзіў сваёй дзюбкай-штыком да зямлі. Потым важна, як і належыць настаўніку, паказаў, як трэба крычаць. Маладыя птахі ў адказ па чарзе курлыкалі, сталі ўсталі ў ваяўнічыя позы і паўтаралі ўсё, што рабіў бацька.

А дзе ж маці? А вось і яна. Стаіць непадалёку і пільна нясе варту: ці мала што можа здарыцца!

Не раз назіраў я, як журавы навучаюць сваіх дзяцей перамагаць ворагаў. Ворагі гэтыя далёка, дзе-небудзь у Афрыцы, куды журкі адлятаць пад гукі сваіх медных труб. Але важней за ўсё навука вярнуцца ў родны край. Усё гэта маладыя журавы і спасцігаюць на балоце.

**АНАТОЛЬ ПЕРАГУД**

*МІРА ЛУКША*

**ДЗЯЎЧЫНКА АЛІНКА**

Дзеці ведаюць мову птушыную,
Дзеці ведаюць мову звярыную.
Лес да сну ім шуміць калыханкі,
Вецер-сівер ім піша спяванкі.

І дзяўчынка Алінка,
Што жыве ў Белавежы
Ведае мову птушыную,
Ведае мову звярыную.
Вось якая дзяўчынка Алінка!

У дзяўчынкі Алінкі,
Што жыве ў Белавежы
Ёсць садок белы ад квецені,
Ёсць ліпы звонкія ў ліпені.
Вось якая дзяўчынка Алінка!

Дзеці ведаюць справы пчаліныя,
Дзеці знаюць шляхі мурашыныя,
Лес да сну ім шуміць калыханкі,
Вецер-сівер ім піша спяванкі.

І дзяўчынка Алінка,
Што жыве ў Белавежы,
Ведае справы пчаліныя,
Знае шляхі мурашыныя,
Вось якая дзяўчынка Алінка!

У дзяўчынкі Алінкі,
Што жыве ў Белавежы,
Усе сябры з крыламі, з рожкамі,
Усе сябры з вочкамі, ножкамі,
Усе сябры з веткамі, кветкамі -
Ведаюць мову Алінкі,
Беларускай русай дзяўчынкі.

**ЗАПРАШАЕМ У КАРАГОД**

Запросім зязюльку да сябе у кола,
Пачастуем зернем чыстае пшаніцы.
Не бядуюць госці ў коле тым вясёлым
І ніхто застацца сумным не баіцца.

Пагляндзі, зязюлька, як з катом дзяўчынка,
Верабей з авечкай, а бабёр з бычком
Станцавалі польку, польку-трамтадрынку
І паселі разам за адным сталом.

Не кукуй, зязюлька, сёння сумным "ку-ку"
І забудзь дарогу ў вырай свой далёкі.
Паспрабуй арэшкаў, вып'і келіх соку
І пусціся разам з іншымі у скокі.

Закружылі у кадрылі,
Затраілі траяка,
У карагодзе пахадзілі,
Зорным пылам запылілі
Каляіны бальшака.

*(Песні з п'есы "Вяселле ката Мікіты", музыка Уладзіміра Казбанава)*

**ДАРАГАЯ "ЗОРКА"!**

У школьным годзе мы вельмі часта арганізавалі дыскатэкі. У гэтым пісьме мы хочам падзяліцца з вамі ўражаннямі з нашых апошніх дыскатэк. Мы цяпер у 8-м класе і перад намі стаіць труднае заданне - выбраць школу. Таму мы запрасілі ў нашу школу вучняў з бышага 8-га класа. Мы прынялі іх вельмі сардэчна і пры гарбаце і пірагу мы гаварылі з імі аб школах, у якіх яны цяпер вучацца. А потым была дыскатэка. Пасля гэтай сустрэчы нам лягчэй стала выбраць будучую школу.

Незадоўга адбыўся ў нас вечар "Маскарад". На вечары ўсе вучні маглі паказаць свой стыль і фантазію. Было вельмі смешна і весела. За найпрыгажэйшыя ўборы былі ўзнагароды. Вельмі цікава на нашых "патанцоўках".

З павагаю

**8 КЛАС ШКОЛЫ Ў КЛЕНІКАХ**

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ (8)

А ці часта ты задумваўся аб духоўнай сувязі са сваімі бацькамі, ці стараўся зразумець іх? Напэўна, не задумваўся.

Дык ці можна чакаць разумення ад бацькоў, калі ты нават не спрабуеш зразумець, чым яны жывуць? Хацелі б, дык, мауляў, самі б аб усім расказалі. Але давай паспрабуем задумацца над гэтым. Заўсёды ж пытаецца той, каму цікава даведацца нешта новае. Надакучлівым, вядома, быць не трэба. Бывае, што ў бацькі ці маці ў гэты момант няма настрою ці жадання ўдавацца ў падрабязнасці - пацярпі, пачакай другога выпадку. У рэшце рэшт, яны зразумеюць, што ў цябе сапраўды сур'ёзны інтарэс да іх работы, да іх прафесіі, і ацэняць гэта.

У кожнага чалавека на працы бываюць і радасці, і засмучэнні, і поспехі, і няўдачы. Пастарайся быць чулым і да таго, і да другога - парадуйся разам з бацькамі іх удачы, паспачувай, падтрымай, калі ў іх непрыемнасці. "Ведаеце, калі я адчуў сябе самастойным чалавекам? - расказвае адзін хлопец. - Калі бацька падзяліўся са мной непрыемнасцямі, якія былі ў яго на працы. Ён прыйшоў дадому вельмі ўсхваляваны, мамы яшчэ не было, і, відаць, яму хацелася выгаварыцца. Ён пасадзіў мяне насупраць і стаў з жарам расказваць аб нейкім канфлікце з тэхнічным кантралёрам, аб дрэнным абсталяванні. Я толкам нічога не зразумеў, але трэба было нешта адказаць, і я сказаў: "Нічога, тата, абыдзецца!" - "Ты думаеш, абыдзецца?" - зусім сур'ёзна спытаў бацька. Тут прыйшла маці, і яны павялі размову далей. А я ледзь не скакаў ад радасці: мяне лічаць ужо дарослым, са мной дзеляцца сур'ёзнымі праблемамі".

Гэты юнак зразумеў бацьку і можна спадзявацца, што і ў будучым яны заўсёды сумеюць зразумець адзін аднаго, дапамагчы адзін аднаму ў цяжкую хвіліну. Але, на жаль, у многіх з вас не хапае ўмення разважна ацаніць свае і чужыя ўчынкі, умення разбірацца ў людзях. Менавіта таму бацькоўскія забароны вельмі часта ідуць на карысць.

"Раней мне мама не дазваляла хадзіць з хлопцамі на танцы, позна выходзіць з дому. Я тады вельмі злавалася на яе. А зараз зразумела - правільна яна рабіла. Мы часта размаўляем з мамай. Яна расказвае аб сваёй маладосці. І цяпер мне больш давярае. Вельмі часта яна гаворыць: рабі, як лічыш правільным. І цяпер, якія б пытанні ні паўставалі перада мной, я заўсёды буду пытаць сябе: а як бы зрабіла мама?" - расказвае Таня Д.

Думаецца, многім з вас не лішнім будзе часцей задаваць пытанні: "А як бы рашыў бацька?" Старайся падыходзіць да жыццёвых пытанняў з пазіцый дарослага чалавека, і тады, можаш быць упэўнены, твае меркаванне і думкі тваіх бацькоў будуць разыходзіцца значна радзей. І яшчэ - разумець усю меру іх адказнасці за цябе, усю глыбіню іх перажыванняў, шчодрасць.

Вытокі тваіх будучых адносін з бацькамі фарміруюцца сёння: калі ты прывыкаеш атрымліваць усё, што пажадаеш, не затрацііўшы працы, у будучым ты таксама будзеш меркаваць, што бацькі ўсё для цябе павінны рабіць, але пры гэтым ты нешта немінуча страчваеш. Добра ж толькі тое, што зарабляецца сваёй працай, дасягаецца сваёй мэтанакіраванасцю, а не ўтрыманствам, вымаганнем.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л. ГАРБАЦЕНКАВА**



*Намалюй гэтыя фігуры, не адрываючы алоўка ад паперы і не праводзячы лінію два разы.*

## СУСТРЭЧА З САБАКАМ

Ішоў малы хлопчык у чужую вёску да радні ў госці. Дарога была няблізкая, незнаёмая, ніводнага чалавека не сустрэў. Хоць і спяшаўся хлопчык, а ўсё ж вечар заспеў яго ў дарозе. Пачало цямнець.

Сустрэўся сабака, стары, худы, поўсць лапікамі выдрана. Жывы да жывога цягнецца, вось і сабака прыстаў да хлопчыка, ідзе за ім, галоднымі вачамі просіць, каб даў паесці. А хлопчык той не даваў яму нічога, праганяў ад сябе:

- Чаго прыстаў? Не дам табе хлеба, у самога мала.

Зусім сцямнела. Дарога нырнула ў лес, звузілася, завіляла, закруцілася ў гушчары. І хлопчык заблудзіўся. Ідзе ён, і сабака за ім трушком бяжыць, не адстае.

Але вось сабака абагнаў хлопчыка і стаў на яго шляху.

- Ты што? - напалохаўся хлопчык.

- Гаў! - гаўкнуў сабака пагрозліва. - Гаў!

Хлопчык замахнуўся на яго торбачкай, але сабака не саступіў.

Хлопчык спрабаваў абысці сабаку, але той усякі раз станавіўся перад ім, не пускаў.

І здагадаўся нарэшце хлопчык, што сабака засцерагае яго ад нейкай небяспекі. Спыніўся, прыгледзеўся і ўбачыў наперадзе, за высокай травой, абрыў. Прысеў, зірнуў уніз, а там, углыбіні, бліснула акенца вады і бялелі вялікія камяні.

Спалохаўся хлопчык: гэта ж якая бяда чакала яго, калі б не ўратаваў сабака. Ён сеў, дастаў з торбачкі акраец хлеба і падзяліў яго папалам - сабаку і сабе.

- Даруй, - сказаў хлопчык, - што я праганяў цябе, хлеба шкадаваў.

І прывёў хлопчык сабаку ў свой двор, карміў яго, даглядаў да самай смерці.

Вось і ўся гісторыя. Засталося толькі дадаць, што тым хлопчыкам быў мой дзед.

**В. ХОМЧАНКА**

## РАСЛІНЫ-СУСЕДЗІ

Кожнаму ў сваім жыцці давялося пераканацца ў тым, што ад суседзяў па лесвічнай пляцоўцы або на дачным участку ў многім залежыць ход вашага жыцця, вытворчыя поспехі. Калі суседзі добрасумленныя людзі, паміж вамі існуе ўзаемаразуменне, то і жыццё ваша ідзе спакойна, рытмічна. І наадварот, калі суседзі не разумеюць вас і многае робяць наперакор - жыццё становіцца складаным.

Мала каму вядома, што так бывае не толькі ў людзей, але і ў раслін, асабліва ў дрэў. Напрыклад, сасна з бярозай ужываецца вельмі дрэнна, затое з дубам яны найлепшыя суседзі. Атрымліваецца гэта таму, што ў раслін існуюць сезонныя і сутачныя цыклы паглынання і выдзялення мінеральных пажыўных рэчываў. І калі гэтыя цыклы не супадаюць, расліны быццам бы адна другую падкормліваюць у патрэбны момант. Напрыклад, у чэрвені дуб паглынае найбольшую колькасць фосфару, а ліпа выдзяляе яго. У ліпені ў дуба рэзка змяншаецца спажыванне фосфару, а ліпа ўзмоцнена пачынае спажываць яго: ён патрэбен ёй для ўтварэння нектару. Гэтаксама сябруюць дуб з клёнам, лістоўніца з елкай, елка з асінай.

Вучоныя заўважылі, што карані адных раслін (парод) пры сумесным вырошчванні збліжаюцца (у сасны і ліпы, дуба і клёна востралістага, дуба і ліпы), а карані іншых - не (у дуба і акацыі белай, сасны і асіны). Гэта тлумачыцца ўплывам рэчываў, якія выдзяляюць карані. Пладовыя дрэвы, што растуць паводльней, маюць меншую вышыню, прыгнятаюць хуткарастучыя, высокія.

Устаноўлена, што вырошчванне бульбы ў міжрадкоўях маладых яблынь садзейнічае накапленню шкодных для яблыні рэчываў (таксінаў). Пры гэтым у каранях і галінках яблыні змяншаецца колькасць азоту, змяняецца склад бялкоў, парушаецца працэс фотасінтэзу.

Заўважана таксама, што пасадкі белай акацыі, каштана, ружы, бэзу, каліны прыгнятаюць яблыню і грушу, а чарэшня з яблыняй добра ўплываюць адна на другую.

Сярод палявых і агародных культур таксама шмат "сяброў" і "ворагаў". У сваіх шматгадовых вопытах батанік С. І. Чарнабрывенка выявіў, што фасоля прыгнятае яравую пшаніцу, але добра ўздзейнічае на бульбу. Цыбуля ж прыгнятае фасолю. Памідоры дрэнна ўплываюць на агуркі, а самі пакутуюць ад рэпы.

**А. МАКАРЭВІЧ**

## ВОЎК І АЛЕНЬ

Аднойчы алень знайшоў ваўка ляжачага пад зваленым дрэвам.

- Што здарылася? - занепакоіўся алень.

- Ты не пытай! - прабурчэў воўк. - Вазьмі камель дрэва на свае рогі ды вызвалі мяне!

Алень вельмі стараўся, каб падняць ствол дрэва. І ўрэшце падняў яго на рагах. Воўк шпарка вышмыгнуў, ускочыў на ногі. Праверыў - цэлы, здаровы. Якое шчасце! Ды і ваўковы косці ўсе цэлыя! Воўк павесялеў і радасна крыкнуў:

- Так, а я цяпер цябе з'ем!

- Што?.. Каго? - перапытаў алень. - Ты мяне хочаш з'есці! Як табе не сорамна! Дык я ж табе жыццё выратаваў!

- Так, я за гэта табе ўдзячны. Але я цяпер галодны, і таму цябе з'ем!

Так яны паспрачаліся. Урэшце пайшлі да мядзведзя прасіць парады. Мядзведзь падумаў і сказаў:

- Ты, алень, маеш рацыю. Непрыгожа з боку ваўка быць такім няўдзячным. Але ёсць тут і твая праўда, воўк, паколькі ты галодны і трэба табе есці. Як жа рашыць гэту справу... Пакажыце мне яшчэ раз месца, дзе здарылася гэтая гісторыя.

Пайшлі яны ўтраіх да зваленага дрэва. Алень падняў ствол дрэва на рагах, воўк падлажыўся пад пень...

- Цяпер, алень, апусці дрэва. Няхай так будзе, як у той момант, калі ты тады падышоў да ваўка, - сказаў мядзведзь.

- Ай, мядзведзь, я так сёння мучыўся з гэтым дрэвам... - пачаў прасіцца алень. - Больш у мяне няма сілы яго падымаць...

- Калі ў цябе няма сілы, не падымай дрэва. Няхай яно ляжыць на гэтым нягодніку.

- Не інакш, - сказаў алень, і яны пайшлі сваёю дарогай.

Пераклаў з нямецкай мовы
**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**
графіка аўтара



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прыснілася маёй менскай сяброўцы, што прыехала яна да мяне ў госці. Адчыняе дзверы кватэры, а ў пакоі на канапе сядзіць мая сяброўка, голая, і кладзе сабе пасьянс з картаў. Цэлая парослая валасамі, на нагах, на спіне, на руках...

**Волька**

Сніцца мне, што паміж маёй і суседняй вёскамі, на палетках, адбываецца нейкая бітва (гэта мне сніцца ўжо не першы раз). Выбухаюць снарады, бегаюць напаўздзічэлыя коні, людзі са стрэльбамі. Народ хаваецца ў хваіну. Мы з братам уцякаем на фурманцы, хаваемся ў лесе, але потым усё ціхне. На полі мы бачым не да канца пахаваных двух мужчын (тырчаць іх ногі). Мне гідка і страшна. Гэтыя людзі быццам мае знаёмыя, але не з нашых бакоў. Думаю: ой, будзе работы, каб гэтую зямлю прывесці ў парадак, каб не было боязна і страшна і каб можна тут было хадзіць і гаспадарыць.

**Аліна**

Волька! Твой сон даволі-такі супярэчлівы. Калі сняцца валасы густыя ў сябе ці ў каго іншага, абазначае гэта багацце і сілу. Калі б прыснілася, што валасы вылазяць, абазначала б гэта хваробу і беднасць. Твая сяброўка была абросшая валасамі, але былі яны не там дзе трэба, ненатуральныя. Апрача таго, яна была голая і клала сабе пасьянс з картаў. Тое, што была голая, абазначала б беднасць, а карты сімвалізуюць нейкі сквапны ўчынак. Бадай ўсё ж сон прадвяшчае, Волька, кепскае тваёй менскай сяброўцы, якая прыехала да цябе. Мо захоча занадта разбагацець, а ў выніку застанецца голая.

Аліна! Вайна ці бітва заўсёды абазначаюць нейкую сварку. Аднак жа твой сон пайшоў далей. Няпэўная сітуацыя пасля сваркі (уцякаеце з братам на фурманцы), а тады бачыце тую жудасную сцэну з тырчачымі нагамі — пагражае небяспека.

**АСТРОН**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### БУЛЬБА З ФРУКТОВЫМ СОУСАМ

Прадукты: 8-10 бульбін, мука ці вотруб'е для паніравання, тлушч для смажання; соус: 15-20 дэкаў сушаных сліў (найлепш без костачак), 10 дэкаў разынак, 1 лыжка мукі, 1 лыжка тлушчу.

Бульбу зварыць у мундзірах, астудзіць яе, нарэзаць скрылёчкамі, крыху пасаліць. Паніраваць яе ў муцэ, падсмажваць на тлушчы.

Падрыхтаваць соус. Старанна памыць слівы і разынкі, заліць вадой у кастрюльцы так, каб ледзь прыкрывала фрукты, зварыць іх, працадзіць (адвар захаваць); можна працерці праз сіта. Тлушч крыху падагрэць, перамяшаць з мукой, развесці адварам. Мяшаючы, закіпяціць. Варыць нейкую хвіліну, пакуль соус не стане густы. Дадаць фрукты і перацёр. Перамяшаць.

Падсмажаную, цёплую бульбу палажыць на талерку, заліць соусам.

**ГАСПАДЫНЯ**

*ЗЁЛКІ-ЛЕКІ*

## ПЕРШАЦВЕТ — НЕ ТОЛЬКІ ГАНЕЦ ВЯСНЫ

Першацвет аптэчны *(Primula officinalis* Jacq.) гэта расліна, якая выступае ў Еўропе, Малой Азіі і ў Сібіры — аж да Далёкага Усходу. У Польшчы расце на сухіх лугах і ў відных зарасніках на нізінах і ў ніжэйшых горных мясцовасцях. Расліна знаходзіцца пад частковай аховай.

У лячэбных мэтах на працягу месяцаў сакавіка, красавіка і мая збіраюць расцвітаючыя залаціста-жоўтыя кветкі першацвету і сушаць іх у цяні і прадуўным месцы. Лячэбнай сыравінай з'яўляецца кветка першацвету — *Flos Primulae*. Збор карэнняў, які фактычна знішчае расліну, дазваляецца толькі на плантацыях. Збіраюць іх восенню, мыюць і хутка сушаць у сушарнях у тэмпературы 40-50°C. Атрымліваецца сыравіна — корань першацвету — *Radix Primulae*.

Такую самую сыравіну можна атрымаць з першацвету высокага — *Primula elatior* (L.) Schreiber, вельмі падобнага да папярэдняга, але крыху большага. Выступае ён у Польшчы ў тых самых мясцовасцях, што папярэдні від першацвету і таксама знаходзіцца пад частковай аховай. Карэнні і кветкі яго з'яўляюцца вельмі распаўсюджанай сыравінай на Захадзе, а асабліва ў Германіі.

Экстракты з кветак першацвету маюць падобныя якасці, што і карэнні, але яны больш далікатныя і менш падражняюць верхнія часткі дыхальных шляхоў.

Прэпараты з першацвету прымяняюць найчасцей у якасці сродка, дапамагаючага адкашлівацца пры запаленні верхніх дыхальных шляхоў, асабліва калі паяўляецца пры гэтым сухі кашаль, а таксама пры астме.

Нязначны ўплыў аказваюць яны на арганізм як сродкі мачагонныя і супрацьзапальныя. Назіраецца таксама іх невялікае ўздзеянне як напотнага і супакойваючага сродкаў.

Занадта вялікія дозы экстрактаў з першацвету, значна вышэйшыя за лячэбныя, вельмі падражняюць слізістую абалонку страўніка і кішак, выклікаючы нуднасць, ваніты ці панос, а часам алергію.

### АДВАР З КАРЭННЯЎ ПЕРШАЦВЕТУ

1/2 — 1 лыжку раздробленых карэнняў заліць 1 шклянкай халоднай вады і варыць на невялікім агні пад пакрыўкай 5 мінут. Зняць з агню, няхай адвар пастаіць 10 мінут, тады працадзіць. Піць па 1 лыжцы праз кожныя 2-3 гадзіны ў якасці сродка на адкашліванне пры хваробах верхніх дыхальных шляхоў.

### АДВАР З КВЕТАК ПЕРШАЦВЕТУ

1 лыжку кветак заліць 1 шклянкай гарачай вады. Падагрэць да кіпення і варыць на малым агні 5 мінут (пад покрыўкай). 10 мінут адвар павінен адстаяцца, а пасля трэба яго працадзіць. Падаваць дзецям ад 1 чайнай лыжачкі да 1 лыжкі ў залежнасці ад узросту 3-5 разоў у дзень пасля яды на адкашліванне і супакаенне.

### ЗЁЛКІ НА СОН

Змяшаць 100 г кветак першацвету, 50 г лаванды, а таксама па 25 г карэнняў валяр'янкі, зёлак святаянніка (інакш зверабою), зёлак крываўніка і хмельных шышак. Заліць 1-2 лыжачкі зёлак 2/3 шклянкі гарачай вады і паставіць на 15 мінут на пары. Даць адстаяцца 5 мінут і працадзіць. Можна дадаць лыжку мёду. Усё гэта выпіць на гадзіну да сну.

На базе першацвету выпускаюцца таксама гатовыя лекі. *„Intractum Primulae"*, які прадукуе „Herbapol", гэта алкагольны экстракт са свежых зёлак першацвету. Дарослыя прымаюць па 20-30 кропляў у кілішку вады 2-4 разы ў дзень пасля яды ў выпадку сухога кашлю.

*„Tussipect"* („Herbapol") — гэта сіроп, кроплі і дражэ, якія прымаюцца пры катаральных станах верхніх дыхальных шляхоў і пры працяглым кашлі. Дарослыя прымаюць па 1 лыжцы сіропу некалькі разоў у дзень, па 15-20 кропляў на кавалку цукру 3-4 разы ў дзень, ці 1-2 дражэ некалькі разоў у дзень; дзеці — па 1 лыжачцы сіропу 3-4 разы ў дзень пасля яды.

*„Bronchicum"* (Германія) — гэта вадкасць і эліксір, якія складаюцца з экстрактаў 6 раслін і эфірнага масла. Вельмі добры лек ад кашлю.

**ЭСКУЛАП**

## КРЫЖАВАНКА



**Управа:** 3/ прэснаводная рыба, 8/ злы дух, нячыстая сіла, 9/ музычны твор у хуткім выкананні, 10/ тэрмін, на працягу якога чалавек працуе або набывае спецыялізацыю, 11/ базар, 13/ там Мекка, 15/ горад на рацэ Волхаў, 16/ душагрэйка, 20/ неадкормлены парсюк, 22/ фармацэўт, які мае права прыгатаўляць лякарствы і прадаваць іх у аптэцы, 23/ далікатнасць у абыходжанні, 27/ драпежная прэснаводная рыбка, 29/ футляр для стрэл, 30/ персідскі цар, 31/ беларускі рок-гурт, 32/ пісьмовая або вусная просьба, заклік, 33/ шум, гул, 34/ аправа для партрэтаў.

**Уніз:** 1/ горад на поўдні Беларусі, 2/ павага, якая аказваецца каму-небудзь, 4/ драма Сафокла, 5/ знішчальны агонь, 6/ вялікая рыбалоўная сетка, 7/ шумная, разбэшчаная гулянка, 12/ гняздо, сядзіба, 14/ полацкі князь, 16/ 60 адзінак, 17/ член сям'і, 18/ баязлівец, 19/ адзенне на час багаслужэння, 21/ усякая жывая істота, 24/ наёмны работнік у панскім маёнтку, які кіраваў гаспадаркай, 25/ крыжаносец, 26/ салодкі выраб, 27/ прыток Нёмана, 28/ у сярэдзіну.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 12 нумара:** вада, дата, тара, раса, гара, нага, мана, дама, каса, сала, лапа, пара, каза, рака, жара, сажа.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Вера Цілюлька** з Саколкі і **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.

## Н Я Н Ь К А

Ларыса працавала настаўніцай. Калі нарадзіла дачушку і кончыўся яе „мацярынскі" водпуск, рашылі з мужам знайсці няньку для малое.

Трапілася ім маладая беспрацоўная дзяўчына пасля тэхнікума. Была яна вельмі задаволенай, калі запрапанавалі ёй два мільёны злотых у месяц.

Дзіцятка было з натуры спакойнае. Ноччу спала добра. Калі бацькі вярталіся з працы, малое таксама спала, а будзілася толькі, каб паесці.

— Вось дык суслік! — смяяліся бацькі.

Аднойчы суседка спытала Ларысу:

— Ці ты ведаеш, што ваша нянька бавіць цэлымі днямі ў горадзе, калі ваша дзіця спіць? Усё спіць ды спіць? Ты паглядзі, ці чаго дрэннага тут няма!

Бацькі ўстрывожыліся. Рашылі праверыць апякунку. Муж схаваўся дома, а Ларыса пайшла на працу.

Рэната пайшла на кухню, пачала варыць кампот з макавіння. Потым астудзіла яго і хацела зноў напаіць малую. Гаспадар выскачыў з-за шафы, схапіў няньку за руку. Адчыніў дзверы кватэры і паклікаў суседзяў. Разам патэлефанавалі ў паліцыю.

Няньку судзілі. Пакаралі яе двума гадамі турмы і некалькімі мільёнамі розных аплат. Дзіця, аднак, было ўжо хворае. Засталося недаразвітым. Не ходзіць, не можа гаварыць, не мае сілы ў руках...

**АЎРОРА**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

### ВЯТРЫ БЕЛЬВЕДЭРСКІЯ

За жалезным плотам
Пеніцца галота:
— Камунааасправадааа ў?!
Абяцааа ўнедааа ў!..

Над гарачым страсці стусам
Пасярэбраныя вусы.

СІДАР МАКАЦЁР

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Я цябе так кахаю, Юліта, — казаў Марко. — Чаму ты мяне пакідаеш? Ідзеш замуж за Каміля... Ці ён лепшы за мяне?

— А як жа ж! І прыгажэйшы, і багацейшы...

— Добра, добра... Але калі табе ў жыцці не ўдасца, прыходзь да мяне.

Прайшло пяць гадоў. Марко ніколі не забыў Юліту. Жанчына, нажыўшы двое дзетак, пакінула мужа-п’яніцу. Прыйшла аднойчы да старога сябра.

— Ты мне, дарагі, казаў калісьці, што магу прыйсці да цябе заўсёды...

— Ты — так, але не твае дзеці.

* * *

— Бачу, Тамара, што ў цябе свая крама. Бачу, мільянерка ты, разжылася...

— Якая я мільянерка! Такія падаткі трэба плаціць!

— Ты не перааймайся, праз месяц-два яшчэ большыя будуць!

* * *

— Ты глядзі, што гэта на свеце дзеецца! Усё ліквідуюць! Усё не аплачваецца! — кажа Міхась Марціну.

— Жыць таксама не аплачваецца! — заўважае Марцін.

— Таму, хто памёр, напэўна, — азываецца Вася.

АЎРОРА

## СЕНТЭНЦЫІ

Адна валасінка яшчэ не грыва.

* * *

Агрэсіўнасць — шапка няпэўнасці.

* * *

Не ўкладай на чужы нос сваіх акуляраў.

* * *

Пыха бачыць сябе, пакора — свет.

* * *

След — гэта пячаць часу.

БАРЫС РУСКО

# НІЎКА

### НА СУДЗЕ

— Таварыш суддзя, вы ж бачыце, што ён дэбіл.

— Ну і што! Запомніце, што дэбілы — такія ж самыя савецкія людзі, як і мы з вамі.

А ў кватэры я трымаю тавар на Польшчу

Мал. П. Козіча

### САЦЫЯЛАГІЧНАЕ АПЫТАННЕ „СМЕХАТЭРАПІІ"

**Прапануем вынікі апытання разнапалага насельніцтва, якое было (а можа і не было) праведзена з мэтай выяўлення грамадзянскай пазіцыі мас.**

1. Ці верыце вы ў пабудову капіталізму з чалавечым тварам?
Веру — 5%
Сам дурны — 45%
Адказалі нецэнзурна — 50 %

2. Як вы ставіцеся да гуманітарнай дапамогі Захаду?
Добра — 25 %
Дрэнна — 25 %
Вельмі есці хочацца — 50 %

3. Хто бацька Жырыноўскага?
Юрыст — 75,7 %
Гумарыст — 12,5 %
Таксама Жырыноўскі — 11,8 %

4. Як вы ставіцеся да праблемы Курылаў?
Аддаць Курылы японцам — 23,8 %
Аддаць Курылы японцам разам з Расіяй — 36,5 %
Аддаць, а потым забраць разам з Японіяй — астатнія

5. Ці былі вы на барыкадах?
Быў — 99 %
Не быў, але збіраўся — 0,5 %
Быў у 1905 годзе — 0,5 %

6. Хто такі Паўлаў?
Фізіёлаг — 50,7 %
Былы прем’ер-міністр — 18,3 %
Паўлаў — гэта я — 31 %

7. Ці ёсць у нас свабода слова?
Не ведаю, бо я глухі — 33 %
Не ведаю, ба я сляпы — 33 %
Не ведаю, бо я нямы — 33 %

*„Звязда" н-р 68 ад 10 красавіка 1993 г.*

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### ПАЛІЦЭЙСКІ І ГРАМАДЗЯНІН

Паліцэйскі, убачыўшы чалавека, які ўпаў з-за хваробы, сказаў:

— Гэты чалавек п’яны.

І тут жа пачаў біць таго па галаве палкай. Грамадзянін, які праходзіў міма, заўважыў:

— Навошта вы катуеце чалавека, які не ўяўляе сабой небяспекі?

Паліцэйскі кінуў біць хворага і заатакаваў Грамадзяніна. Той, атрымаўшы некалькі моцных удараў, збег.

— І чаму я патрацiў свае сілы, б’ючы ляжачага, а не пачаў з цвярозага? — з жалем сказаў Паліцэйскі.

З таго часу ён ужо не марнаваў часу на п’яных і слабых. Праз свой імпэт і актыўнасць ён зрабіўся Начальнікам, а што такое цвярозасць у гэтым рэгіёне ўжо не ведаюць.

### ЛЮТАЯ РАПУХА

Змяя, праглынуўшы рапуху, заўважыла, што да яе набліжаецца Натураліст з кіем.

— А, мой выратавальнік, — як мага лагадней сказала Змяя, — ты прыйшоў у час. Гэтая жахлівая рэптылія вырашыла кatаваць мяне знутры.

— Дарагая, — адказаў Натураліст, — мне патрабуецца змяіная скура для калекцыі. Але, калі б вы не растлумачылі мне сваёй праблемы, я б вас не кранаў. Я ж думаў, што вы абедаеце.

### ЛАПУХІ НА МАГІЛЕ

Чытальнік Думак залажыўся, што зможа прабыць у магіле шэсць месяцаў і застанецца жывы. Каб магілу ніхто не кранаў, яе пазасеялі калючым лопухам. Праз тры месяцы Чытальнік Думак прайграў: ён вылез з магілы, каб пад’есці калючак.

### АПТЫМІСТ

Дзве Рапухі, што апынуліся ў страўніку змяі, абмяркоўвалі становішча.

— Не пашанцавала нам, — заўважыла адна.

— Не трэба рабіць паспешлівых высноў, — адказала другая. — Над намі не падае дождж і мы маем жыллё і ежу.

— Жыллё мы маем, — згадзілася Першая Рапуха, — а вось ежы я тут не бачу.

— Ну ты проста сляпая, — растлумачыла другая. — Гэта ж мы.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

## СУЧАСНЫЯ ПРЫПЕЎКІ

Тыя змены-перамены
Не прынеслі нам дабра.
Кажуць, навaт у Саўміне
Хутка скончыцца ікра.

Без каўбас і без бліноў,
З чорнаю скарынкай,
З голым задам без штаноў
Дабяжым да рынку.

Ў нашым горадзе ў глыбінцы
Шмон наводзіць шантрапа.
А з дубінкамі дубіны —
Ля ліхтарнага слупа.

Цэны скачуць — што ні суткі,
Нібы тыя прастытуткі.
Чым да вечара даўжэй,
Тым каўбасы даражэй.

Ўсё жыццё бабулька Рая
На хаўтуры сабірае.
Падлічыла — ну і ну!
Не хапае на труну.

Запісаў на Гродзеншчыне
Мікола КАРАЛЁЎ

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Калі б расказаць табе ўсё, што я перажыла, дык, пэўна, і пяці тамоў не хапіла б. Я захварэла будучы яшчэ дзяўчынкай. У семнаццаць гадоў адцвіла, хаця некаторыя яшчэ толькі расцвітаюць. Праўда, тады я яшчэ не ведала, што гэта ўжо канец маёй жаночасці. Я думала, што менструацыя ў мяне спынілася толькі на нейкі час, увесь час лячылася і верыла, што ўсё вернецца на сваё месца. З гэтай верай я выйшла замуж.

Мужу пра сваю хваробу не расказвала перад шлюбам. Не таму, аднак, што хацела ашукаць яго, каб хаця мяне ўзяў. Кандыдатаў мне не бракавала. Я проста саромелася сваёй хваробы, а, зрэшты, ні крыху не сумнявалася ў тым, што ўрэшце мяне вылечаць і я ізноў стану паўнацэннай жанчынай. Я ж не ўяўляла сабе жыцця без дзяцей.

Спачатку я хавалася з тым, што хаджу па дактарах. Але аднойчы муж мой злавіў мяне на хлусні. Я сказала, што іду да сяброўкі, а ў яго памерла маці. Прыехаў да той сяброўкі, каб паведаміць, што выязджае, — а мяне няма. Пасварыліся, я вымушана была прызнацца, куды хаджу і што лячу.

Ад гэтага часу ён стаў нейкі халодны. Меў прэтэнзіі да мяне, што нібы я свядома яго ашукала, бо ўсё ведала аж занадта добра, калі выходзіла замуж. Не верыў мне, калі я тлумачыла яму, што нічога кепскага не хацела, калі крыху ашукала яго. Ці ж маладой жанчыне лёгка прызнацца, што яна ўжо як бы і не жанчына...

Мінала ўжо якраз тры гады ад нашага шлюбу, а надзеі на маё вылячэнне як і не было. Муж пачаў мне гыркаць, перастаў лічыцца са мною. Неўзабаве я даведалася, што сустракаецца з іншай жанчынай.

Маё сэрца ныла ад жалю і адзіноцтва. Я не знаходзіла сабе месца. Мо і лепш было б, каб я нічога не ведала. Прынамсі было б спакайней, ды мо не адчувала б я сябе такой самотнай. А так... Сказала мне пра тое „добразычлівая" сяброўка і разварэдзіла маю душу. Нават тады, калі мой муж быў побач са мною, мне здавалася, што ён ад мяне вельмі далёка.

А мо і сапраўды так было, бо хутка прыйшло пацвярджэнне гэтага. Я ж рабіла выгляд, што нічога не ведаю, старалася быць мілай у адносінах да яго. Баялася я, што калі толькі пачну чапляцца да яго, то ён мяне кіне.

А ён пачаў сам. Так і так, маўляў, нашай супольнай будучыні ён не бачыць. Дзяцей мець не будзем, дык што ж гэта за сям’я! А ёсць чалавек, які дасць яму сына. Гэта яго сяброўка з працы, якая ў шостым месяцы цяжарнасці. І таму ён хоча прасіць у мяне разводу.

Я адранцвела. Значыць, на нішто не былі патрэбныя мае дробныя ашуканствы, якія мелі дапамагчы нам вытрываць аж да майго вылячэння. Значыць, усё скончана...

Развод я, вядома, дала, у мужа майго ўжо двое дзяцей, ён, кажуць, шчаслівы чалавек.

Мае справы скламіся крыху горш. Памёр мой бацька, маці занялася дзецьмі сястры. Я жыву адна, хворая і нікому непатрэбная. Тое шматгадовае лячэнне прывяло да іншай цяжкой хваробы. Я цяпер на рэнце. Грошай мала, жыццё прайгранае. Скажы, Сэрцайка, чаму людзі не патрапяць даць праўдзівага цяпла блізкаму чалавеку?

Раіса

Раіса! Сумная з’ява, але людзі жывуць перш за ўсё для сябе. У твайго мужа прынамсі была падстава для апраўдання: ты ашукала яго. Мог ён думаць, што калі ашукала ў адной справе, дык будзеш ашукваць і далей. Але ў сапраўднасці было, пэўна, інакш. Проста хацеў мець дзяцей. Для мужчыны гэта таксама адзін з важнейшых фактараў сямейнага жыцця.

Можна забівацца з жалю, што чалавека спаткаў такі лёс, як цябе. Але можна таксама прыняць яго з пакорай і старацца годна жыць нават у такой паскуднай сітуацыі. Ёсць жа навокал людзі, дзеці. Пастарайся пры ўсім тваім болі быць добразычлівай і мілай у адносінах да іх. Не насі ў сабе злосці, што ім у жыцці пашанцавала. Можа, і яны адплацяць табе тым жа.

СЭРЦАЙКА